РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №15 (124), 13 КРАСАВІКА 1994

СЁННЯ:



Пра праект ушанавання памяці загінуўшых салдат Напалеона распавядае госць нашай рэдакцыі, вядомы французскі гісторык Фернан БАКУР.

Стар.3





...Габелен "Чарнобыль" народнага мастака Беларусі Аляксандра Кішчанкі ў зале Эканамічнага і сацыяльнага Савета ААН "не дае замоўкнуць сумленню чалавечаму", па трапным выразе міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі. Менавіта майстэрню гэтага творцы пажадаў наведаць Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пан Бутрас Бутрас Галі...

Аўтограф газеце «КУЛЬТУРА»



Фота Генадзя Жынкова

Што дапамагае зразумець адзін аднаго дыпламатам і палітыкам? Што дазваляе ім лягчэй пераносіць псіхалагічнае напружание? Пра што разважаюць і нават спр[illegible] афіцыйныя асобы ў неафіцыйнай абстаноўцы - у машынах, за кубачкам кавы, словам, у вольныя ад перамоваў хвіліны? Пётр Краўчанка прыадкрывае, прынамсі, сакрэты і тонкасці такой дыпламатыі нашаму карэспандэнту (стар.2).

ЭКСКЛЮЗІЎ

## Пётр КРАЎЧАНКА:

# «І ТУТ Я ВЫЙШАЎ НА ТОЕ, ШТО З'ЯЎЛЯЕЦЦА ЗАЎСЁДЫ ПАНАЦЭЯЙ АД УСІХ БЕДАЎ...»

— Яшчэ па дарозе ў Аксакаўшчыну, у НДІ радыяцыйнай медыцыны, я расказваў пану Бутрасу Бутрасу Галі пра нашы трагічныя чарнобыльскія праблемы. А лічбы гэтыя проста шакіруюць: па шэрагу анкалагічных захворванняў нашы нацыянальныя паказчыкі перавышаюць у сто разоў паказчыкі іншых краін свету, скажам, Фінляндыі. І, вядома ж, гэтая інфармацыя моцна ўвайшла ў свядомасць Генеральнага сакратара ААН. Дзень візіту ў Аксакаўшчыну стаў для яго трагічным па сваёй сутнасці. Гэта зразумела: шрамы ад дзвюх-трох аперацый на дзіцячых шыйках — па-мойму, не могуць пакінуць раўнадушным ніводнага чалавека... Так што, вяртаючыся з Аксакаўшчыны, я ўжо праводзіў пэўную псіхатэрапію. Мне трэба было здымаць гэтыя страшныя ўражанні, якія пакінулі балючы след у свядомасці Бутраса Бутраса Галі. І тут я выйшаў на тое, што з'яўляецца заўсёды панацэяй ад усіх бедаў, што ратуе душу, лечыць — гэта мастацтва і культура.

Першы, так бы мовіць, сюжэт у нас быў звязаны літаральна з першымі хвілінамі яго візіту. Калі мы ехалі з аэрапорта ў Мінск, адбылася гутарка пра беларускае мастацтва, і даволі грунтоўная. У машыне бадай хвілін сорак па дарозе ва ўрадавую рэзідэнцыю мы размаўлялі пра некаторыя мастацкія праблемы. Пан Бутрас Бутрас Галі — чалавек вельмі адукаваны: ён атрымаў грунтоўную адукацыю ў Францыі. Маладосць правёў у Парыжы і выдатна ведае французскае мастацтва — сучаснае і XIX стагоддзя. Так сталася, што мы прызналіся адзін аднаму ў любові да школы імпрэсіянізму. Але больш за ўсё, як высветлілася, ён любіць постімпрэсіянізм, асабліва Анры Маціса. У ягонай калекцыі ёсць работы гэтага мастака — графічныя лісты, малюнкі, якія ён набываў вельмі даўно. Бутрас Бутрас Галі нават ведаў Маціса, ён мне гаварыў, што быў знаёмы з маэстра. Я тут жа прыгадаў палатно Маціса «Танцуючыя», іншыя творы, якія цяпер ёсць у музеях Расіі і якія калісьці набывалі буйныя калекцыянеры-мільянеры.

І вось тут паміж намі завязалася творчая спрэчка, якая доўжылася даволі доўга. Я сказаў, што імпрэсіянізм — арыгінальная плынь, але яна падпітвалася каранямі іншых школ, іншых культур. І тут правёў такую паралель, што, маўляў, імпрэсіянізм звязаны з кітайскай і японскай гравюрай, асабліва з гравюрамі японскага мастака XVII стагоддзя Утамара. Але мой суразмоўца не прыняў гэтую ідэю, маўляў, у Францыі не вельмі добра ведалі старажытнае мастацтва Японіі. Аднак французы, як і англічане, у XIX стагоддзі актыўна асвойвалі Усход, і я прывёў такі аргумент: кітайская парцаляна была добра вядомая ўжо ў XVI-XVII стагоддзях. Калекцыі з яе мы сустракаем у каралеўскіх палацах Францыі, г.зн., што гэтае мастацтва было вядомае негацыянтам, мараходам, вайскоўцам, паслам, гандлярам. Яны вабілі французаў — кітайская парцаляна, зброя, бронза. Таму і кітайская гравюра, без сумнення, трапляла на вочы Пісаро, Эдуарду Манэ, Клоду Манэ, Рэнуару і Дэга... Словам, французаў вабіў Усход, чыё мастацтва сілкавала сучасную мастацкую плынь Францыі. Успомніць хаця б Гагена, які кінуў усё і паехаў у Палінэзію, а мастак-рамантык Дэлакруа — першы з французаў, які адкрыў для сябе Марока. Гэтыя мастакі-бунтары вырываліся з затхлай атмасферы Еўропы, ім патрэбныя былі свежыя ўражанні, свежая кроў, бо мастацтва Францыі — салоннае, нежывое ў той час, выраджалася... У рэшце рэшт, мы з Бутрасам Галі прыйшлі да пэўнага кампрамісу.

Потым размова нашая скіравалася на Фернана Лежэ, я расказаў пра нашу зямлячку Надзю Лежэ. У той момант мы якраз праязджалі міма Палаца спорту і я заўважыў, што 20 гадоў таму тут адбывалася выстава твораў Фернана Лежэ, якую арганізавала Надзін, што копіі з сусветнавядомых мастацкіх твораў яна падарыла сваёй малой радзіме — Зембіну.

Мы гаварылі і пра Шагала, пра ягоныя творы, раскіданыя па ўсім свеце. Я ўспомніў сусветную выставу Шагала ў маленькім швейцарскім горадзе Марціны, у галерэі П'ера Джанадара, дзе экспанаваліся дзвесце твораў з былога СССР, якія ўпершыню былі паказаны еўрапейскаму гледачу. Дарэчы, Бутрас Галі — сапраўдны знаўца творчасці Шагала. Я расказаў пра тое, што мы рыхтуем шагалаўскі фестываль у Віцебску ў рамках 50-годдзя ўтварэння ААН. Наш госць гэта вельмі добра ўспрыняў і запытаў, ці ёсць на Беларусі што са спадчыны мастака. Адказаў, што твораў няма, але ўжо два гады таму некалькі арыгіналаў Шагала з прыватных калекцый мы паказвалі ў Віцебску і што цяпер таксама думаем сабраць для выставы арыгіналы. Бутрас Галі адразу заўважыў, што нам гэта не ўдасца зрабіць, што гэта страшэнна дорага, асабліва калі творы — з замежных музеяў, дзе адна страхоўка каштуе мільёны і мільёны долараў. Але мы ў большай ступені арыентуемся на прыватных калекцыянераў з Расіі, Украіны і Прыбалтыкі, дзе страхоўка пакуль не вымяраецца грандыёзнымі сумамі. Бутрас Галі вельмі цікава апавядаў пра тое, як рабіўся шагалаўскі блакітны вітраж, які знаходзіцца на самым ганаровым месцы — каля параднага ўваходу ў будынак ААН. Так што ў мяне склалася ўражанне, што Генеральны сакратар — не толькі выдатны міжнароднік, але і вельмі адукаваны, сучасны і цікавы суразмоўца.

Ён ажыўлена цікавіўся ўсім. Напрыклад, калі мы наведвалі Вярхоўны Савет, я затрымаў яго і прапанаваў зазірнуць у габеленавую залу, дзе паказаў твор Аляксандра Кішчанкі. Шаноўны госць, так бы мовіць, навобмацак паспрабаваў адчуць гэты габелен, распытваў — дзе такое робяць, з якіх нітак, ці ёсць у нас свая ткацкая школа. І вось тут узнік яшчэ адзін унікальны сюжэт у нашай гутарцы.

Як і мне, у свой час пану Бутрасу Галі давялося дарыць габелен. Гэта было шмат гадоў таму, калі ён узначальваў Міністэрства замежных спраў Егіпта. У яго тады выспела ідэя падарыць Жэнеўскай штаб-кватэры габелен егіпецкай вытворчасці. У егіпцян ёсць свае невялікія габеленавыя майстэрні. Ён паехаў у самую буйную і знайшоў там камерны габелен. А паколькі ва ўсім свеце міністэрствы замежных спраў — бюджэтныя арганізацыі, то пытанне стаяла так: або гаспадар майстэрні праз Бутраса Галі дорыць твор мастацтва, які прадстаўляў бы Егіпет у Жэневе, у еўрапейскай штаб-кватэры ААН, або магчыма аплата дзяржавы, але чыста сімвалічная. Гаспадар тады рассмяяўся і сказаў: «Ну што вы, пан міністр, калі гэта трэба для радзімы, для Егіпта, дык гэты твор будзе падараваны». Так габелен апынуўся ў аанаўскай арганізацыі. Дарэчы, жэнеўская штаб-кватэра ў ААН — гэта не што іншае, як былая сусветная аганізацыя, гэта Ліга нацыяў, аналаг, вытокі ААН у даваенны перыяд. Спецыяльна пабудаваны ў 20-я гады будынак у стылі канструктывізму. Тут знаходзіцца шмат твораў мастацтва, у тым ліку і габеленаў. Прынамсі нядаўна Латвія ў сувязі з візітам пана Ульманіса аформіла там спецыяльную залу ў латвійскім нацыянальным стылі. Дарэчы, Генеральны сакратар ААН і кіраўнік еўрапейскай штаб-кватэры пан Уладзімір Пятроўскі падчас перамоваў на Беларусі афіцыйна прапанавалі мне і прэм'ер-міністру рэспублікі Вячаславу Кебічу паўтарыць крок латышоў: нам таксама выдзелена зала, і мы можам аформіць яе ў нацыянальным стылі. Прапанова прэм'ер-міністрам В.Кебічам была прынята з задавальненнем.

Наведванне майстэрні Аляксандра Кішчанкі не ўваходзіла ні ў якія праграмы візіту. Былі і складанасці: у прыватнасці, службе бяспекі было неабходна скарэктаваць маршрут і г.д. Але я заінтрыгаваў Бутраса Галі. Трэба сказаць, што ААН проста нашпігавана творамі мастацтва. Габелен «Чарнобыль», які рабіў Аляксандр Міхайлавіч, з'яўляецца адным з лепшых. Гэта агульнапрызнана. Пан Бутрас Галі ведае гэты габелен, бо ён вісіць у другой па значнасці зале Эканамічнага і сацыяльнага Савета, пасля Савета Бяспекі — гэта самы аўтарытэтны орган (зала N1 —гэта зала Генеральнай Асамблеі). У зале — 184 крэслы, 184 мікрафоны, тут 184 дэлегацыі свету штодзённа бачаць перад сабой гэты габелен. Менавіта тут абмяркоўваецца чарнобыльская праблематыка. Такім чынам, месца для габелена было выбрана намі не выпадкова. Мы яго размясцілі там, дзе твор мастацтва не дасць замоўкнуць сумленню чалавечаму, дзе ён будзе пастаянна заклікаць, трывожыць, нагадваць, працаваць як маральны, культуралагічны раздражняльнік.

Словам, наш госць быў падрыхтаваны да сустрэчы з мастаком. Хацеў пагледзець і «Габелен стагоддзя» проста на станках, але рамкі візіта не дазволілі наведаць Барысаўскі камбінат прыкладнога мастацтва. Пан Генеральны сакратар цікавіўся, хто будзе адлюстраваны на гэтым габелене, потым ужо, у майстэрні больш дэталёва пра гэта даведаўся. На маю думку, Афрыка на габелене прадстаўлена не вельмі шырока, і было б някепска, калі б у шэрагу іншых сусветнавядомых дзеячаў там з'явіўся і партрэт Абдэль Насэра... Вы самі бачылі, як жыва Бутрас Галі класіфікаваў жывапіс Аляксандра Кішчанкі. Калі мастак падарыў яму карціну з сюжэтам, дзе адлюстраваны расколаты стол, ён гэта так пракаменціраваў: «Проста сюжэт з маёй дзейнасці; расколаты стол — не што іншае, як адна з тупіковых сітуацый, і трэба прызнаць, што я часам цярпеў паражэнне...» Так, гэты чалавек проста чытае творы мастацтва, разумее метафарычную мову жывапісу. А ўвогуле, наведванне майстэрні зрабіла вялізнае ўражанне на Бутраса Галі і на яго бліжэйшых паплечнікаў. Мушу сказаць, што візіт Генеральнага сакратара ААН у мастацкую майстэрню — гэта з'ява найглыбокая. Такога не было яшчэ ні ў Маскве, ні ў іншых месцах. Сам факт, што кіраўнік сусветнага парламента, аўтарытэтнейшай арганізацыі знаходзіць час, каб па-за афіцыйнай праграмай проста вырвацца на паўгадзіны да мастака — гаворыць пра многае. Пра тое, што мы ўжо прызнаныя, што нас заўважылі і цэняць. Значыць, ёсць культура, ёсць мастацтва і тыя з'явы ў манументальным мастацтве, якія дазваляюць нам гаварыць пра Беларусь з пачуццём гонару.

Асабіста я расцэньваю гэты факт і такім чынам: Генеральны сакратар прыехаў да канкрэтнага мастака, але, вобразна кажучы, ён засведчыў сваю пашану ўсім творцам з «Вежы мастацтваў». Менавіта так назваў комплекс мастацкіх майстэрань, што па вуліцы Сурганава, Бутрас Галі. І ў гэтым — элемент павагі да ўсіх беларускіх майстроў. Я расказаў Бутрасу Галі пра нашых выдатных жывапісцаў і графікаў, пра творчасць Леаніда Шчамялёва, Гаўрылы Вашчанкі, Аляксея Марачкіна, Міколы Селешчука, Міхаіла Савіцкага, Васіля Шаранговіча, Арлена Кашкурэвіча, Уладзіміра Савіча, Уладзіміра і Міхася Басалыгаў...

У чарговы раз пераканаўся, што культура дапамагае палітыкам знаходзіць агульную мову. Гэта тая універсальная мова, якая дазваляе невядомых нам людзей рабіць сябрамі Беларусі. Па ступені сур'ёзных адносінаў да Беларусі візіт пана Бутраса Галі быў унікальным. І не толькі таму, што праходзіў ён тры дні — гэта наогул нечувана многа! Генеральны сакратар ААН кожную дэталь у перамовах успрымаў гранічна сур'ёзна...

Запісала Людміла КРУШЫНСКАЯ.

P.S. Застаецца дадаць, што ў «Габелен стагоддзя» Аляксандр Кішчанка збіраецца ўводзіць мастацкі вобраз Бутраса Бутраса Галі, пра што ён і паведаміў падчас сустрэчы шаноўнаму госцю. А словы высокай афіцыйнай асобы, звернутыя да Пятра Краўчанкі — «Пан міністр, Вам робіць гонар, што Вы патрануеце такога мастака!» — сведчанне прызнання талентаў і Творцы, і Палітыка.

Л.К.

ЧАС ВЫБАРАЎ

# КАНДЫДАТУРА ПРЭЗІДЭНТА ПРАЗ ШКЛО ПІЎНОГА КУХЛЯ

Піва — вынаходніцтва унікальнае. І унікальнасць яго ў першую чаргу мабыць нават не ў непаўторным устойлівым смаку, а ў атмасферы, якая ствараецца вакол бурштынавага напою. У звычцы моцнай паловы чалавецтва цадзіць гэты напой няспешна, памногу і абавязкова не аднаму, а ў кампаніі. Далібог, нават не зважаючы на англійскую звычку «карыстаць» па 12 пінтаў элю (каля 6 літраў) за вечар, нашыя сапраўдныя аматары шэсць-восем кухляў за некалькі гадзін «куляюць» з лёгкасцю.

Зразумела, што ў перапынках паміж двума глыткамі ў сапраўднага «півуна» з'яўляецца надта многа вольнага часу, які проста грэх не скарыстаць для задушэўнай размовы. А з прычыны таго, што сённяшняе жыццё пакінула нам піва як адзіны, пэўна, сродак дэмакратычна і не надта дорага «адпачыць душой», гаворкі з кухлем у руках міжволі раз за разам вяртаюцца да аднаго і таго ж — да гэтага ж самага жыцця. Жанчыны часам кажуць, што мужыка хлебам не кармі — дай пра палітыку паразмаўляць. Дык і не дзіва, што з півам у руках мужчыны гаварылі выключна пра яе!

Нашага паважанага чытача я хачу папярэдзіць, што запіс ніжэйзмешчанай гаворкі ані ў якім разе не прэтэндуе на сацыялагічнае даследаванне настрояў шырокіх мужчынскіх масаў. Гэта па-першае. Па-другое, як журналіст хачу перапрасіць спадарства за частковае парушэнне журналісцкай этыкі: пад цёплым красавіцкім сонейкам, на суботнім бульвары Талбухіна сталіцы Беларусі, ля піўнога кіёска, размаляванага словам «піва» на ўсіх мовах свету, з півам у руках я не змог павярнуць языком, каб папярэдзіць «сакухельнікаў» пра свае чорныя задумкі, і вымушаны быў цішком уключаць дыктафон ва ўнутранай кішэні курткі. Па-трэцяе, з прычыны гэтай самай таемнасці і жадання атрымаць аўтэнтычны погляд народа я не магу ручацца за вялікую рэпрэзэнтатыўнасць рэспандэнтаў: ведаю толькі, што Першы субяседнік — рабочы, а Чацвёрты — інжынер.

І апошняя заўвага — з беларускай народнай трасянкі гаворка перакладзена на беларускую літаратурную, а моцныя выразы заменены на адпаведныя лексічныя адзінкі са слоўніка Крапівы.

**Першы:** — Прэзідэнт, прэзідэнт... А навошта нам упаў той прэзідэнт?!

**Другі:** — Не, не кажы. Парадак трэба ўмацоўваць. Абрыдзела мафія гэта — куды ні сунься, крадуць па-чорнаму. А нам — палец смакчы, а на чым пападзешся — мала не падасца!

**Чацвёрты:** — Ну, гэта каго выберуць, аднак...

**Трэці:** — А вось я вам скажу, мужыкі, мне Кебіч падабаецца. Вось ён праўду гаворыць: усё парушылі, адкуль тут парадак будзе? Трэба сапраўды сувязі наладжваць, іначай хана нам.

**Ч.:** — Пачакай, што ты туфту нясеш! Якія сувязі! Хто яму, Кебічу твайму, іх перашкаджае наладжваць? Ды ў яго ўся краіна ў руках, і што з таго? Балбатня толькі.

**П.:** — У натуры, чуеш... Ты на тую Расію паглядзі — жывуць горш за нас, зарплату не атрымліваюць. Чаго нам з ёй у адзін хаўрус лезці? На Захад трэба прадавацца, як лабусы. Во дзе зараз людзі жывуць!

**Д.:** — Дык ты што, Пазьняка хочаш?

**П.:** — А хоць і яго. Думаеш, горш будзе? Ён праўду кажа —трэба самім пра нешта думаць, і самім пацІху выплываць, бо ніхто з боку нам не дапаможа. А мафію гэтую і камуністаў розных недабітых — брудным венікам разагнаць! А то глянь, як Лукашэнку пракінулі — як быццам і не было нічога.

**Ч.:** — А, Лукашэнка таксама цаца добрая. Бегае са сваімі кампраматамі, шуму многа падымае, а вынікі? Шушкевіча за цвік, бачце, прагналі. Дык там хоць мужык быў разумны, спакойны. Не тое, што калгаснік гэты. І не краў ён нічога — нармальны чалавек. Я б за яго галасаваў, калі што...

**Т.:** — А што толку з гэтага Шушкевіча? Саюз разваліў, усю эканоміку заваліў... Не, паглядзелі ўжо, хопіць.

**П.:** — А, маўчы лепш. Мне таксама Шушкевіч падабаецца. Ды і наогул новага нечага хочацца, можа, хоць што-небудзь зменіцца. Бо калі гэтую мафію сённяшнюю пакінуць — хана нам усім будзе. Абрыдзелі!

**Амаль хорам:** — Твая праўда!

І мы пайшлі заказваць чарговыя кухлі піва.

А замест пасляслоўя-каментара дазволю сабе толькі заўважыць, што акрамя чатырох вышэйзгаданых прозвішчаў іншыя прэтэндэнты ў прэзідэнты падчас гаворкі нават і не ўсплывалі. Выпадкова тое ці не — аднаму Богу вядома. Але што палітолагі таксама вылучаюць гэтую чацвёрку з усёй масы прэтэндэнтаў —гэта факт. І ў бліжэйшых нумарах мы абавязкова вернемся да сур'ёзнай і падрабязнай размовы пра жадаючых заняць новенькае найвышэйшае крэсла — крэсла прэзідэнта.

А наогул — пачакайце сонечнага надвор'я, прыдзіце да піўной, закажыце піва ды паслухайце, што людзі кажуць. Пераканаецеся, што я чыстую праўду напісаў!

Піва пацягваў ды запіс рабіў Максім ГІЛЕЎСКІ.

# ІТАЛЬЯНЦЫ — НАШЫМ ДЗЕЦЯМ

Асвальда Леуцы, аташэ па культуры Пасольства Італіі ў Рэспубліцы Беларусь, адказваючы на пытанні нашага спецкарэспандэнта Ягора Фядзюшына, так абазначыў праграму, падрыхтаваную пасольствам да восьмай гадавіны Чарнобыльскіх падзей:

«16 красавіка ў Мінск прыязджае група італьянцаў, якія клапоцяцца пра дзяцей Чарнобыля і якія хочуць сустрэцца з прадстаўнікамі вашых грамадскіх арганізацый, занятых той жа праблемай. Такая сустрэча павінна адбыцца ў Таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі. 18 красавіка на ёй будуць выступаць з невялікім канцэртам дзве групы дзяцей з чарнобыльскай зоны. Яны ўжо вядомыя італьянцам, бо адпачывалі і праходзілі аздараўленне ў нас і вельмі спадабаліся. Менавіта таму італьянцы прыехалі сюды і прывезлі ім гуманітарную дапамогу.

У гэтыя ж дні ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбудуцца два канцэрты з удзелам маэстра Ферма Рашынья. Грошы ад канцэртаў пойдуць у фонды дапамогі чарнобыльцам. Апрача таго, па ініцыятыве аддзела культуры Пасольства Італіі ў Беларусі адбудзецца выстава твораў Міхаіла Савіцкага, які пакажа серыю карцін на чарнобыльскую тэматыку».

Інтэрв'ю са спадаром Асвальда ЛЕУЦЫ чытайце ў наступным нумары.

# У ПАДМУРАК ФРАНЦУЗСКА-БЕЛАРУСКІХ АДНОСІНАЎ

**НАПЭЎНА, кожны француз ведае пра існаванне ракі Бярэзіны: падчас вайны 1812 года на яе берагах загінула ледзь не ўсё вялікае войска Напалеона Банапарта, аднак няшмат хто чуў, што працякае яна не ў Расеі, а ў адноўленай еўрапейскай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь, бо і сама наша дзяржава, на жаль, вельмі рэдка рызыкуе прыцягнуць да сябе ўвагу еўрапейскай грамадскасці. Дапамагчы Беларусі нагадаць пра сябе свету можа, у якасці прыкладу, праект ушанавання памяці загінуўшых салдат Напалеона, пра які распавядае госць нашай рэдакцыі, вядомы французскі гісторык Фернан БАКУР.**

— Хаця я з'яўляюся афіцыйным прадстаўніком Цэнтра Напалеонаўскіх даследаванняў, на Беларусь я ехаў, перадусім, як прыватная асоба — каб пабачыць гістарычныя мясціны, звязаныя з напалеонаўскім паходам на Расею. Аднак, калі пазнаёміўся з беларускімі гісторыкамі, наведаў берагі Бярэзіны, даведаўся пра варты жалю лёс манументаў, якія стаялі раней на месцы пераправы, — у мяне з'явілася мара ўсталяваць там мемарыяльны знак салдатам Вялікага войска. На сустрэчы з кіраўніцтвам мясцовых улад у Барысаве, на якой прысутнічаў і пасол Францыі пан Жаліф, гэтая прапанова была ўхвалена.

Як высветлілася, на месцы двух мастоў праз Бярэзіну, па якіх перапраўлялася войска, у 1912 годзе былі адкрытыя два помнікі, у надпісах на якіх гаворка ішла як аб расейскіх, так і аб французскіх салдатах. Аднак дзесьці ў 50-х гадах яны былі знішчаныя. Потым на месцы аднаго з іх быў усталяваны новы помнік, але ў надпісу на ім згадваецца толькі подзвіг расейскіх салдат. Абодва папярэднія помнікі стаялі на адным (левым) беразе ракі, але, я лічу, помнік салдатам Напалеона было б мэтазгодна ўсталяваць на правым беразе. Не хачу, каб ён дамінаваў над расейскім помнікам: можна зрабіць яго такой самай вышыні і нават ніжэйшым. Не хачу нічога выцурнага: хай яны будуць падобныя. Што датычыцца грошай, патрэбных на ягоную пабудову, я гатовы выдаткаваць іх з маіх уласных сродкаў. Гэта будзе данінай нашай павагі да беларускай зямлі. Цэнтр Напалеонаўскіх даследаванняў падтрымаў гэты праект. На помніку будзе змешчана назва нашага Цэнтра, каб падкрэсліць, што помнік усталяваны французскімі гісторыкамі, а не палітыкамі. Калі я сустракаўся з былым міністрам культуры спадаром Вайтовічам і паслом Францыі ў вашай краіне — я запэўніў іх, што гэта будзе помнік не палітычны, а толькі гістарычны.

Мы не хочам дзейнічаць за спіной беларускай грамадскасці, наадварот — хочам прыцягнуць яе ўвагу і знайсці паразуменне. Менавіта таму і звярнуліся да вашай газеты. Я ўдзячны вам за дапамогу і хачу яшчэ раз патлумачыць: помнік не будзе ўшаноўваць асабіста Напалеона. Мы хочам адзначыць месца вельмі важнай для еўрапейскай гісторыі ваеннай падзеі. Мы хочам ушанаваць подзвіг загінуўшых салдат. Нягледзячы на вельмі цяжкія абставіны, войска здолела перайсці раку, чым вельмі, дарэчы, здзівіла расейскіх палкаводцаў.

**— Чым яшчэ займаецца Цэнтр Напалеонаўскіх даследаванняў?**

— Гэты Цэнтр быў створаны ў 1965 годзе вядомымі гісторыкамі, якія не заўсёды знаходзілі магчымасць апублікаваць свае працы. Зараз мы выпускаем часопіс «Напалеонаўскія даследаванні», які выходзіць раз на год і мае каля 250 старонак. Цэнтр ладзіць кантакты з французскімі і замежнымі гісторыкамі, якія вывучаюць эпоху Вялікай Французскай рэвалюцыі — яе прычыны, эвалюцыю і наступствы. Можна сказаць, мы даследуем гісторыю сучаснай дэмакратыі: перамены ў грамадскім ладзе нашай краіны, якія спарадзілі як Вялікая, так і наступныя рэвалюцыі. Мы выдалі таксама ўпершыню два вялізныя тамы загадаў і лістоў, падпісаных Напалеонам падчас падрыхтоўкі паходу на Англію ў 1803-1805гг. Рыхтуецца да друку трэці том, а першыя два былі адзначаны прэміяй Французскага інстытута (найбольш аўтарытэтнай акадэмічнай установы нашай краіны).

Наш Цэнтр — гэта арганізацыя вольных гісторыкаў. Ён існуе коштам унёскаў ад сваіх членаў і не мае фінансавай падтрымкі ад дзяржавы або багатых нашчадкаў тых, хто ўдзельнічаў у напалеонаўскіх паходах. Мы не дазволілі ўступіць у нашую суполку нікому з нашчадкаў самога Напалеона, бо хочам разглядаць гісторыю праз уласныя вочы.

Мяне, як прадстаўніка Цэнтра, вельмі цікавяць кантакты з вашымі гісторыкамі. У наш часопіс даслала артыкул аб знаходжанні Напалеона ў Віцебскай губерні супрацоўніца тамтэйшага музея Інеса Абрамава. Падрыхтаваў таксама артыкул для нас гісторык Ігар Груцо. Мы абавязкова змесцім іх на старонках часопіса, каб чытачы маглі зазірнуць на Беларусь, дакрануцца да яе культуры, а галоўнае — каб маглі ўбачыць гісторыю гэтай зямлі менавіта з гледзішча саміх беларусаў, а не палякаў або расейцаў.

**— Спадар Бакур, ці не маглі б Вы распавесці нашым чытачам крыху аб сабе?**

— Студэнтам я вывучаў правазнаўства і літаратуру, а таксама металургію. Працаваў у кампаніі «Узінэ» і Вышэйшай школе ўжытковага мастацтва, а паралельна ўдзельнічаў у навуковых даследаваннях і абараніў доктарскую дысертацыю па гісторыі. Пасля выхаду на пенсію я ўжо мог вольна распараджацца сваім часам і прысвяціў яго навуковым пошукам. Ужо больш за 15 гадоў я выкладаю французскую гісторыю ў некалькіх універсітэтах ЗША (штогод па два месяцы). Часта наведваю былы СССР — пераважна Маскву, Санкт-Пецярбург і Кіеў. У апошнія гады, дзякуючы, у прыватнасці, генералу Валкагонаву, з якім я маю вельмі добрыя адносіны, у мяне з'явілася магчымасць наведваць Калінінградскую вобласць, дзе адбываліся буйныя бітвы ў 1807 годзе. Цяпер мяне запрасілі прачытаць курс лекцый у Калінінградскім універсітэце, і я пагадзіўся. У французскіх і замежных гістарычных часопісах я надрукаваў больш за 200 артыкулаў, выдаў некалькі буйных прац.

Як турыст-навуковец я наведваю гістарычныя мясціны Беларусі і Расеі, заходжу ў мясцовыя музеі, сустракаюся з гісторыкамі. Для гісторыка, я лічу, вельмі важна асабіста пабываць на месцы гістарычных падзей, пра якія ён піша, убачыць і адчуць іх сэрцам.

**— І якія ў Вас уражанні ад нашай краіны?**

**— Я прыехаў сюды не толькі дзеля аднаўлення помніка, але каб прадставіць французскім чытачам Беларусь як раўнапраўнага партнёра ў культурнай, эканамічнай ды іншых галінах. Беларусь не шмат хто ведае: мы лічылі гэтую зямлю часткай Расеі. Дарэчы, мы маглі б прадаставіць старонкі нашага часопіса для дыскусіі паміж беларускімі гісторыкамі незалежніцкай і прарасейскай арыентацыі, якую магла б арганізаваць ваша газета. Але прыцягнуць увагу да вашай краіны лепш за ўсё дапамогуць канкрэтныя справы: адкрыццё таго ж помніка, напрыклад, магло б паўплываць на турысцкія маршруты. Трэба, каб да вас паехалі людзі. За культурнымі кантактамі абавязкова пачнуцца і эканамічныя.**

Дзякуючы падарожжам я сустракаю шмат новых людзей, часцей за ўсё прыемных. Для мяне ўсе мы — жыхары Еўропы, якая мяжуецца Уралам, у нас агульныя карані. Раней нас раздзялялі штучна ўтвораныя межы і бар'еры, і ад гэтага, бясспрэчна, цярпелі абедзве яе часткі. Нашай мэтай павінна стаць іхняе збліжэнне. Я спадзяюся, што цяпер, калі межы сталіся больш празрыстымі, мы здолеем ладзіць часцейшыя і больш плённыя кантакты паміж адрознымі прадстаўнікамі еўрапейскай цывілізацыі, з іхнімі непаўторнымі звычаямі, ладам жыцця і здабыткамі культуры.

Запісаў Юрась БАРЫСЕВІЧ.

**Ад рэдакцыі:**
**Вайна 1812 года для беларусаў мае зусім іншае значэнне, чымсьці для расейцаў. Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што для нас яна была не Айчыннай, а грамадзянскай вайной. Частка беларусаў змагалася за цара, іншая — за Напалеона, бо той абяцаў аднавіць у пэўнай ступені Вялікае Княства Літоўскае. Значыцца, і на Бярэзіне, сярод адступаючых і гінучых французаў, былі і нашыя суайчыннікі. Помнік напалеонаўскім войскам каля Студзёнкі, такім чынам, будзе ўшаноўваць і тых беларусаў, што загінулі на роднай зямлі.**

КАНТРАМАРКА

# ПАВАРОТ СОНЦА НА ВЯСНУ?

**АПОШНЯЯ дэкада першага веснавога месяца ў тэатральным жыцці нашай краіны вызначылася яскравымі, незабыўнымі падзеямі, ужо практычна забытым імклівым, мажорным тэмпарытмам. Здаецца, мы ўсе акрыялі, ажылі духам разам з прыродай, якая, нягледзячы ні на якія сацыяльныя катаклізмы, катастрофы, абавязкова штогод абуджаецца, цягнецца да жыцця, нясе жыццё. Так і людзі тэатра: іх можна прынізіць, на іх можна нагнаць нуду, кінуць у хвалі жыццевыжывання, але яны заўсёды гатовыя да вегетацыі — ад першага ж промня сонца ўсхамянуцца.**

Здаецца, там, у Маладзечне, на фестывальнай сакавіцы, уражаннямі пра якую я падзяліўся ў мінулым выпуску «Кантрамаркі», адбыўся паварот сонца на вясну. Фіеста, наладжаная з ініцыятывы мэра спадара Карпенкі і старшыні СТД спадара Дударава іх руплівымі «камандамі» з удзелам «дзелавых колаў» краіны, выпрастала крылы ў людзей сцэны. Узнёслы настрой панаваў яшчэ цэлы тыдзень, адарваўшы нас ад аднастайнага выканання «службовых абавязкаў» і роздумаў ледзь не касмічнага маштабу — дзе і як зарабіць шматок «зайчыкаў», а затым як і на што іх патраціць. Грымнулі святы, без якіх і тыя, хто робіць мастацтва, і тыя, хто яго «спажывае», жыць не могуць.

Урачыста-радасная вечарына ў Мінскім маладзёжным тэатры афарбавалася для яго трупы такімі эмоцыямі, якія ў нашых рэаліях бываюць, бадай што, толькі раз у жыцці. Homo soveticus выдатна разумее, што значыць атрымаць свой кут-кватэру пасля шматгадовых бадзянняў па інтэрнатах. Атмасфера была той, якая толькі і можа быць адзін раз у жыцці — на ўлазінах. Больш за дзесяць гадоў таму маладыя акцёры аб'ядналіся ў адзін калектыў, сыгралі некалькі спектакляў на розных сцэнах Мінска і... зніклі з вачэй не толькі шырокай публікі, а нават і сваіх калег. Раз-пораз прасочваліся звесткі пра іх поспехі на фестывалях і гастролях за мяжой. І ўсё. Разумею іх крыўду і боль: былі мары і сілы сказаць востра і шчыра сваё слова ў мастацтве, сваю праўду пра жыццё. Яно было патрэбнае моладзі ў час крушэння стэрэатыпаў, час апатыі і надзей. Яны адчувалі, як бяздарна, упустую пралятаюць гады жыцця, ці не найлепшыя. Мы ж, віруючы ў іншых праблемах ці падзеях тэатральнай цякучкі, толькі зрэдку ўспаміналі пра яшчэ, здавалася б, зусім нядаўна вельмі рэпертуарныя і адметныя індывідуальнасці, да прыкладу, Сяргея Жураўля, Васіля Нікіценкі, Аляксандра Шарова, Валерыі Ліхадзей, Ганны Лавухінай ды іншых. Яны штосьці рабілі, але што, ніхто не ведае, і чакалі свята на сваёй вуліцы.

З дзяржаўнага тэатра перайшлі ў разрад гарадскога, што, напэўна, і прыспешыла надыход гэтага шчаслівага дня. Нарэшце завяршылася рэстаўрацыя былога кінатэатра «Спартак», кіроўцы трамваяў сталі аб'яўляць прыпынак як «Тэатр моладзі». І 25 сакавіка 1994 года новыя гаспадары вядомага мінчукам будынка расчынілі дзверы найперш для сваіх сяброў, для тых, хто ім дапамагаў і хто ім верыў гэтае доўгае і пакутлівае дзесяцігоддзе. Мэр сталіцы спадар Герасіменка і намеснік міністра культуры спадар Гілеп перарэзалі стужкі, і мы трапілі ў памяшканне — невялікую, але вельмі ўтульную глядзельную залу, арыгінальна спланаваныя і функцыянальна звязаныя паміж сабой фае, сцэну, залу. Інтэр'еры сціплыя, але стыльныя ў сваёй строгасці. У новым тэатры няма складанай машынэрыі сцэны, затое набытая выдатная сістэма асвятлення. Але найбольшае ўражанне пакінула сама сцэна з... фантанам. Тут, ля фантана, дырэктар тэатра Вяргінія Тарнаўскайтэ і мастацкі кіраўнік Віталь Катавіцкі прымалі падарункі ад начальства, калегаў з іншых тэатраў, увогуле гасцей. Было цёпла, утульна, весела. Гаспадары разыгралі шчодра маляўнічае прадстаўленне-капуснік, госці глядзелі і частаваліся (шампанскага і памаранчаў не бракавала). Затым усе разам танцавалі. І ў вымаўленых словах і па-за імі ў думках усе жадалі шчасця і поспехаў трупе Маладзёжнага ў іх новым доме. Хай жа тут назаўсёды паселіцца творчая атмасфера, хай жа такім пакуль яшчэ маладым і задзірлівым артыстам спадарожнічае ўдача, а цёмныя сілы не знойдуць тут сабе месца.

Вядома, святы ў тэатры здараюцца не часта, да іх ідуць доўга, пакутліва, цяжка. І тым не менш, сябры, хай жа як можна даўжэй не згасаюць вашыя вочы, што зноў запаліліся агнём надзеі. Здаецца (ва ўсялякім разе я не заўважыў), на вашым свяце не было ніводнага злога вока, якое магло б вас сурочыць, — і гэта добра, што запрошана было вельмі вузкае кола самых блізкіх сяброў. Свята атрымалася сямейным, значыць, ёсць спадзеўкі, што сям'я будзе жыць шчасліва.

А ўжо праз дзень у зале Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы мы святкавалі Міжнародны дзень тэатра. Зусім па-новаму, у зусім новай нашай якасці, бо, нарэшце, упершыню як самастойныя, раўнапраўныя члены вялікай тэатральнай сям'і пад назвай Міжнародны Інстытут Тэатра ЮНЕСКО. Так, цяпер мы ўтварылі наш Нацыянальны цэнтр МІТ. Нас ведаюць у свеце, мы ўдзельнічаем у розных сусветных тэатральных мерапрыемствах, акцыях і самі іх наладжваем (напрыклад, міжнародны фестываль монаспектакляў «Я», што адбыўся ў Мінску ў кастрычніку мінулага года). Штогод 27 сакавіка ва ўсіх тэатрах тых краінаў, якія ўваходзяць у МІТ (а гэта практычна амаль уся планета), перад спектаклямі і на ўрачыстасцях зачытваецца міжнароднае пасланне аднаго з найбуйнейшых дзеячаў сусветнай сцэны. У гэты раз такое пасланне склаў буйны драматург, ён жа Прэзідэнт Чэхіі, Вацлаў Гавел. А ў Мінску прачытаў палкі зварот чэшскага калегі Прэзідэнт Беларускага нацыянальнага цэнтра МІТ, драматург Аляксей Дудараў.

Зала з разуменнем успрымала глыбокія разважанні выдатнай асобы пра ролю тэатра ў свеце, дзе яшчэ не зжытыя тыранія, дэспатызм, гвалт. У гэты дзень ва ўсім свеце дзеячы сцэны аб'ядноўваліся вакол разумення іх місіі ў сучасным грамадстве. А затым былі падарункі, узнагароды. СТД прэміраваў рэжысёраў, акцёраў, сцэнографаў, крытыкаў за творчыя дасягненні. Штогадовая найвышэйшая ўзнагарода «Крышталёвая Паўлінка» на гэты раз прысуджана народнай артыстцы Зінаідзе Канапелька (была ўручана раней, на бенефісе актрысы ў Віцебску). Прыз «Крышталёвая кветка» (за выдатныя дасягненні сярод маладых акцёраў) атрымаў саліст балета ДАВТ Беларусі Веніямін Захараў. А вось і зусім арыгінальная ўзнагарода, якой ганаруюцца дзяржаўныя асобы і фундатары тэатра за вялікі ўклад у развіццё тэатральнай справы — «Крышталёвая карона». Як выключэнне, у гэтым годзе ўручылі яе адразу двум асобам — мэру Маладзечна, народнаму дэпутату Генадзю Карпенку і прэзідэнту фірмы «ВІТТ» Валерыю Мацулевічу.

І зноў вяртаемся з падзякай да нашых новых сяброў-спонсараў. І само гэтае цудоўнае свята наладжана за сродкі фірм «ВІТТ», «Helen Valery Ltd», «Dainova», «Алабама», «GA бізнес-кантакт». А яшчэ «Helen Valery Ltd» ўручыла грашовыя прэміі некаторым рэжысёрам і акцёрам. Фірма «Dainova», шырока вядомая сваёй нацыянальнай арыентацыяй, заснавала штомесячныя стыпендыі для шэрагу акцёраў тэатра імя Янкі Купалы.

Здаецца, тэатральнае жыццё зноў паціху ажывае, што нават выклікае здзіўленне: як гэта магчыма ў наш крызісны час? А вось так: ёсць людзі, для якіх жывы тэатр з яго не толькі буднямі, але і святамі — найвялікшая каштоўнасць, дзеля яе і працуюць. І ёсць людзі, якія цудоўна разумеюць, што іх бізнес не будзе цывілізаваным у бескультурным грамадстве, дзе няма месца мастацтву, духоўнасці. Так нараджаецца саюз бізнесу і мастацтва, узаемакарысны і, здаецца, адзіны, які нас усіх ратуе. Спадзяюся, уратуе.

Вячаслаў РАКІЦКІ.

# ДА 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794г.

## «КАБ ТОЛЬКІ АЙЧЫНА БЫЛА НЕЗАЛЕЖНАЙ...»

БЫЛЬ



Трагічным для народаў Рэчы Паспалітай — Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага — быў 1794 г. Па імперскім хаценні Расіі, Прусіі і Аўстрыі, па сутнасці палітычных разбойніц, з мапы Еўропы няўмольна знікала цэлая дзяржава... і гэта здарылася тады, калі тут усталёўвалася эпоха Асветніцтва, якая захапіла Рэч Паспалітую, дзе ўпершыню ў Еўропе была прынята дэмакратычная Канстытуцыя, праводзіліся прагрэсіўныя рэформы, ішоў наступ на неадукаванасць і ўслаўляўся здаровы патрыятызм. Вызваленчае паўстанне патрыётаў супраць акупацыйных войскаў, якое доўжылася на працягу двухсот дзён, закончылася паражэннем. Рэвалюцыйная Францыя не змагла дапамагчы, а больш не было каму. Шмат было складзена чалавечых галоў на алтар волі, шмат было горычы і слёз. Шмат трапіла ў палон, на катаргу. А колькі апынулася на выгнанні?

У сталіцу імперыі на Няве пад покрывам ночы 10 снежня прывезлі важнага палоннага з поля бітвы пад Мацяёвіцамі. З ім абыходзіліся як з тайным дзяржаўным вязнем. Гэта датычыла і яговых ад'ютантаў, якіх трымалі асобна. З-за цяжкага стану здароўя палоннага (параненых галавы і ног) царыца Кацярына II вырашыла размясціць яго не ў казематах Петрапаўлаўскай цытадэлі, а ў пакоях каменданта гэтай сумнай установы.

Праз некалькі дзён, а дакладней на трэці дзень пасля прыбыцця, пачалося следства. Царыцы і дзяржаўным мужам імперыі надта карцела хутчэй дазнацца пра галоўных арганізатараў паўстання, іх сувязі з перадавымі людзьмі Францыі і расійскімі вальнадумцамі. У колах, прыбліжаных да імператарскага двара, толькі і чуваць было: «У цытадэлі кіраўнік польскіх і літоўскіх бунтароў», «патаемны вязень», «важны палонны»... А гэта выклікала яшчэ большую цікавасць да яго асобы: «хто ён?», «што сабой уяўляе?». І яны паступова даведаліся, што гэта заслужаны генерал, вялікі патрыёт Літвы-Беларусі і Кароны-Польшчы, нацыянальны герой Паўночных амерыканскіх злучаных штатаў, шляхціц з-пад Косава Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка; кавалер двух ордэнаў, амерыканскага — Цынцыната за незалежнасць краіны і Рэчы Паспалітай — Віртуці Мілітары за ўдзел у вайне 1792 года ў абарону Канстытуцыі Трэцяга Траўня супроць царскага войска імператрыцы Кацярыны II.

Тадэвуш Касцюшка пра сябе здзіўляўся, чаму ён, вайсковы палонны, знаходзіцца ва ўстанове, прызначанай для палітычных злачынцаў імперыі, але даведаўшыся, што для яго тут, у пакоях каменданта, прыдбаны такарны станок для заняткаў ужытковым мастацтвам, супакоіўся. Ён не пакідаў надзеі, што высокае магнатства, якое здрадзіла сваёй Айчыне і ахвотна прыслужвала Расійскай імперыі, паклапоціцца аб лёсе дванаццаці тысяч палонных патрыётаў, што трапілі ў няволю.

Генерал-пракурор Самойлаў прасіў палоннага вязня пісьмова адказаць, чым займаўся на працягу апошніх гадоў, у часе абвяшчэння Канстытуцыі 1791 года, ну і, зразумела, як апынуўся ў палоне, хаця аб гэтым высокі чыноўнік павінен быў ужо ведаць. У ходзе следства паўставалі іншыя пытанні, прыкладам, адносна эмігранцкага Цэнтра ў Саксоніі, непасрэдна паўстання... Пісьмовыя адказы, якія рыхтаваў «галоўны палонны», не задавальнялі ні царыцу, ні высокіх чыноўнікаў імперыі. Яны зразумелі, што ліцвін — патрыёт Рэчы Паспалітай — не хоча і не можа выдаваць сваіх паплечнікаў па барацьбе.

Сапраўды, так і было. Касцюшка свядома не засяроджваў увагу на сваёй ролі ў паўстанні, імкнуўся даваць адказы, заснаваныя на агульнавядомых фактах. Але гэта ні ў якім разе не азначала, што Касцюшка не перажываў за лёс паўстанцаў і сваёй Айчыны. Дайшло да таго, што яго здароўе значна пагоршылася. Моцна балела галава. Знік апетыт. Схуднеў. Пра ўсё дакладвалі царыцы. І тады яна загадала не турбаваць яго, а пасля распарадзілася перасяліць вязня ў



Мармуровы палац. Там лячэннем заняўся лекар яе імператарскай вялікасці Джон Роджэрсан, англічанін па паходжанні.

Адкуль зыходзілі такія клопаты? Інтуітыўна здагадваўся, што імператарскаму двару ён патрэбен на ўсялякі выпадак, калі прыйдзецца выкарыстаць яговы аўтарытэт у сваіх інтарэсах, напрыклад, для запалохвання Прускай манархіі тым, што ў складана-супярэчлівую часіну народы былой Рэчы Паспалітай будуць разам з Расіяй.

Між тым душэўныя перажыванні ўзмацняліся. Таму ён імкнуўся адшукаць у мінулым падзеі і выпадкі, якія б будзілі прыемныя згадкі і неслі добры настрой. Але чамусьці ўсё часцей згадваліся хвіліны жыццёвых клопатаў. Ну, хаця б ліставанне, зварот да генерала Несялоўскага, у якім пераконваў яснавяльможнага літоўскага пана паспрыяць вырваца з польскага войска і перайсці ў сваё, літоўскае. Даказваў яму: «Кім жа я з'яўляюся? Хіба я не ліцвін, ваш зямляк, вамі абраны? Каму павінен дзякаваць (за рэкамендацыю Брэсцкага сойміка), калі не вам? Каго павінен абараняць, калі не вас і сябе самога?.. Злосць мяне бярэ: каб з Літвы ў Кароне служыў...»

З тае пары прайшло больш за сем гадоў. Шмат што змянілася. Войска Кароны і Войска Літоўскае,



асаблівa прадстаўнікі сярэдніх і ніжэйшых станаў грамадства, засталіся вернымі ідэалам вольнасці, цэласнасці і незалежнасці дзяржавы, паказалі сябе ахвярнымі як абаронцамі. Шмат было высакародных, мужных і сумленных афіцэраў і генералаў з вышэйшага стану грамадства, але ж не абышлося і без тых, хто назаўсёды запляміў сябе здрадай Айчыне.

Думкі, думкі... Іх было нямала. Згадваліся першыя спатканні з паннай Людвікай Сасноўскай, сваёй абранніцай, з якой, на жаль, не суджана было крочыць па жыцці.

Прыгадваліся дні, калі адным з першых еўрапейскіх эмігрантаў-добраахвотнікаў накіраваўся марскім шляхам да Філадэльфіі, каб стаць у шарэнгі змагароў за амерыканскую незалежнасць; сустрэча з Вашынгтонам, галоўнакамандуючым кантынентальнай арміі, кароткая запамінальная гутарка з ім і пытанні:

— Хто вы, сэр? Дзе ваша Айчына? Якія ў вас планы?

Адказаў, што ліцвін з Рэчы Паспалітай, народжаны для волі, але страціў яе на Бацькаўшчыне... Таму мае жаданне здабыць яе тут, змагаючыся разам... Джордж Вашынгтон шчыра прывітаў яго, выгнанніка, які далучаецца да высакароднай святой справы — змагацца за вольнасць, незалежнасць і дэмакратыю.

Гады барацьбы ў Паўночнай Амерыцы прыдаліся ў дні паўстання 1794 года. І вось першая перамога 4 красавіка пад Рацлавіцамі над корпусам царскага войска, у якой вызначыліся касінеры, простыя сяляне і мяшчане. Рацлавіцкая перамога акрыліла ўсіх на далейшае змаганне... Затым наступілі ахвярныя дні крывавых бітваў і сутычак з непрыяцельскім войскам у іншых месцах. Радавала ўсіх вызваленне сталіц — Варшавы і Вільні, многіх гарадоў, мястэчак і вёсак. Усё было... Нечакана пад Мацяёвіцамі здарылася цяжкае раненне. А пасля палон, няволя. Допыты. Трагічныя перажыванні.

І вось візіт новага цара Паўла І, які вырашыў праведаць яго, прывітаць па-джэнтльменску:

— Я прыйшоў, пан генерал, вярнуць вам волю...

Вязню засталося ў знак удзячнасці пакланіцца. Цару падалося, што палонны не ведае, хто з ім гутарыць. Запытаўся пра гэта. І тут жа пачуў адказ на французскай мове:

— Я ўсвядоміў, што вы — ваша вялікасць імператар... Дараванне вамі мне волі — дабрачыннасць, якая годна вялікасці вашага імператарскага трона.

Цар Павел І пачаў гаварыць, што заўжды спачуваў лёсу Касцюшкі, але ў часы праўлення сваёй маці нічым не мог дапамагчы. Затое цяпер (а гэта было 27 лістапада 1796 года) лічыць сваім абавязкам дараваць яму волю.

— Вы вольны, пан генерал Касцюшка, — валадарна падкрэсліў расійскі імператар.

Тадэвуш Касцюшка зноў пакланіўся і прызнаўся яго царскай вялікасці:

— Над сваім лёсам я не гараваў, але лёс Айчыны заўжды буду аплакваць.

Цар заспакойваў Касцюшку, нацыянальнага героя Паўночных амерыканскіх злучаных штатаў, пачэснага грамадзяніна Францыі, што трэба забыцца пра бацькаўшчыну, паколькі яе напаткала тое, што здарылася з многімі дзяржавамі, згадкі аб якіх захаваліся толькі ў гісторыі. А што асабіста да яго, Касцюшкі, то... «Вы назаўжды, пан генерал, пакінеце цудоўныя, незабыўныя ўспаміны».

— Ляпей бы я быў забыты, каб толькі Айчына была незалежнай. Так, загінулі многія дзяржавы, але знікненне з мапы еўрапейскай Рэчы Паспалітай, рэспубліканскай федэрацыі Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага — падобнае як разумець?

— Аднак жа, пан генерал, і візантыйская і рымская дзяржавы зніклі з мапаў, бо былі падзелены. Ці не так?

— Рэч Паспалітая — рэспубліка. Гаспадарства двух народаў, якое хацела шляхам рэформаў ісці да росквіту, прыйсці да ўзаконенай волі і выказала на гэта сваю энергію, патрыятызм.

І тут Касцюшку давялося пачуць горкія і крыўдныя імперскія разважанні: «Аднак прызнайце, што гэта ваша свабода не адпавядала інтарэсам суседніх дзяржаў і што вашы суайчыннікі самі паслужылі зброяй гібелі сваёй радзімы».

На гэта Тадэвуш Касцюшка папрасіў яго імператарскую вялікасць не працягваць гутарку на балючую тэму, бо аб падзенні Рэчы Паспалітай, сваёй «Айчыны без хвалявання ні мысліць, ні гаварыць» не можа.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

*На здымках:*

1. Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка.
2. Тадэвуш Касцюшка на полі бітвы пад Мацяёвіцамі.
3. Панна Людвіка Сасноўская.
4. Візіт цара Паўла І у вязніцу.



## ПРАГРАМА

**СВЯТКАВАННЯ 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794 г. У БЕЛАРУСІ**

**11 красавіка** — Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Адкрыццё выставы «За волю нашу і вашу».

**15 красавіка** — Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Адкрыццё выставы «Прысвячэнне Паўстанню 1794 г.».

**16 красавіка** — Дом літаратара Беларусі. Навуковая акадэмія «Вызвольнае Паўстанне 1794 г.».

**22 красавіка** — Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Адкрыццё экспазіцыі, прысвечанай гісторыі Вызвольнага Паўстання 1794 г.

**24 красавіка** — Дзяржаўная Нацыянальная філармонія Беларусі. Сход грамадскасці краіны і канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.

**Травень** — Берасце, Горадня. Закладка помнікаў А.Т.Касцюшку і Паўстанню 1794 г.

**20 траўня** — Менск. Закладка экуменічнай капліцы «Памяці беларускіх паўстанцаў 1794 г.».

**13 чэрвеня** — Валожын. Адкрыццё мемарыяльнай табліцы.

**15 чэрвеня** — Івянец. Адкрыццё мемарыяльнай табліцы.

**24 чэрвеня** — Кобрын. Закладка помніка Паўстанню і А.Т.Касцюшку.

**25 чэрвеня** — Марачоўшчына, Сяхновічы. Адкрыццё мемарыяльных табліц. Імша ў Косаўскім касцёле.

**16 ліпеня** — Солы. Адкрыццё мемарыяльнага знака.

**23 ліпеня** — Відзы. Адкрыццё надмагільнага помніка Т.Ваўжэцкаму. Імша ў касцёле. Відзы Лаўчынскія. Адкрыццё мемарыяльнай табліцы на доме Ваўжэцкіх.

**27 ліпеня** — Менск. Канцэрт, складзены з музычных твораў кампазітараў — удзельнікаў і сучаснікаў Паўстання: Міхала Казіміра Агінскага, Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, Мацея Радзівіла, Міхала Клеафаса Агінскага і іншых у Верхнім горадзе.

**30 ліпеня** — Паляны. Адкрыццё мемарыяльнага знака.

**2 жніўня** — Слонім. Адкрыццё мемарыяльнай табліцы.

**24 жніўня** — Менск. Адкрыццё памятнага знака на месцы бітвы паўстанцаў з маскоўскім войскам.

**10 верасня** — Чыжэўшчына (Крупчыцы). Адкрыццё помніка беларускім паўстанцам, якія загінулі ў бітве з сувораўскім войскам. Кобрын. Канцэрт, складзены з музычных твораў кампазітараў — удзельнікаў і сучаснікаў Паўстання.

**17 верасня** — Горадня. Адкрыццё мемарыяльнай табліцы на каралеўскім палацы. Канцэрт, складзены з музычных твораў кампазітараў — удзельнікаў і сучаснікаў Паўстання. Адкрыццё абласной мастацкай выставы.

**23 верасня** — Менск. Адкрыццё мастацкай выставы суполкі «Пагоня».

**27 верасня** — Дзяржаўная Нацыянальная філармонія Беларусі. Канцэрт, складзены з музычных твораў кампазітараў — удзельнікаў і сучаснікаў Паўстання.

**Мікола КУПАВА,**
**Старшыня Нацыянальнага Аргкамітэта.**

# ЛІСТЫ ПРАЗ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ

## (з эпісталярнага архіва пісьменніка Аляксея Карпюка)

*ПЕРАЛІСТВАЮ, перачытваю, асабліва доўгімі начамі, рукапісы Аляксея Нічыпаравіча і іншых: вершы Дануты Бічэль, Вольгі Іпатавай, Петруся Макаля; не, не ў салідных іх кнігах, а напісаныя на пажаўцелых паперках; ёсць у архіве майго мужа лісты людзей са ўсяго свету. І я цяпер перабіраю іх — і як бы нанова перажываю тое, што было калісьці...*

О Божа! Чаму, толькі пражыўшы цэлае жыццё, пачынаю разумець, як адарыў ТЫ мяне разумнымі, добрымі, сумленнымі людзьмі! Не магу пахваліцца — тады, у маладосці не была надта празорлівай. Можа, толькі падсвядомасцю адчувала тонкасць і мудрасць, вялікую чалавечую годнасць Івана Антонавіча Брыля. Вядома, бачыла, якім клапатлівым і талерантным настаўнікам ён быў у адносінах да Аляксея Нічыпаравіча. Заўсёды мела і сваё асабістае стаўленне да Івана Антонавіча: цаніла сэрцам магчымасць размаўляць з ім праз яго кнігі, набываючы вопыт духоўнага жыцця, бо ён клапаціўся аб вечных маральных каштоўнасцях, не сцвярджаў «тэхналогій», жудасна знаёмых майму пакаленню (... чтоб служба медом не казалась, ... не хочешь — заставим).

Толькі сэрца здагадвалася пра веліч простай кабеты (так, прынамсі, я яе ўспамінала тады, у 59-м, там, у Зэльве), — Ларысы Антонаўны Геніюш. Даруйце, людзі, але я, якая адбыла 14 гадоў у дзіцячых дамах, дзе мы былі «дзецьмі ворагаў народа», не зразумела жахлівы і трагічны яе лёс, пра які яна апавядала мне ў вершаваным лісце. Было гэта недзе ў 1962 годзе. Не магу яго знайсці, можа, пацїху яго забралі з хаты, як забіралі і другія паперы. Памятаю толькі, што там — пачуцці адзінокага, зацкаванага, абязлічанага чалавека, «заброшанага ў паўночныя завеі». Толькі цяпер разумею страту і, спазніўшыся, перачытваю нешматслоўныя карткі яе мужа Івана Пятровіча, напісаныя выдатным каліграфічным почыркам, заўсёды на беларускай мове: «З сьвятам працы і вясны віншуюць і свае шчырыя пажаданні засылаюць Геніюшы. *(Зэльва, 29.04.1961)*». Чытаю таксама ціхае, жаласлівае апавяданне Ларысы Антонаўны. Толькі цяпер разумею, чаму тады, у 1959-м, гаварыла так ціха і па-руску: яшчэ не ажыла ад тых, забытых Богам мясцін, дзе калёным жалезам вытраўлівалася паняцце спачування, літасці, кахання. Чытаю: «Мы уже никогда не пройдем около Вашего дома, чтобы не зайти к Вам *(16.11.59)*». Відаць, балюча ўваходзілі ў нейкае новае жыццё, бо далей піша: «Я на работе. Очень, очень рада, жизнь стала интереснее, более содержательной и полноценной. Иногда бывает нелегко, мешает прошлое, заключение *(16.11.59)*». Сённяшнія хлопцы, прабачце, нават не патрафілі б зразумець, як цяжка было Ларысе Антонаўне пакарыцца (па вельмі дакладным вызначэнні шырокаадукаванага, інтэлігентнага, чыстага душой, мілага нашым сэрцам разам са сваёй Зосяй — Ул.Калесніка), так, пакарыцца правілам, «устаноўленым малапісьменнымі, але ўсеўладнымі рамеснікамі». Таму, хаваючы сутнасць сваёй асобы ў жыццёвых клопатах, Ларыса Антонаўна ціха-ціха гаворыць: «У внучка нашего уже есть один зубок. Он у нас полненький, роскошный мальчик. Больших волнений или радостей у нас нет, кроме Михаськи. Это единственная звездочка нашей жизни». Добра ведаючы аб поўнай беспакаранасці самавольства, яна яшчэ цішэй, ледзьве чутна, гаворыць пра сына Юрку, які стараецца вучыцца, аб нявестцы, якая «не мае працы і не можа яе знайсці». Учытваюся сёння ў яе непаўторныя вершы, у надпіс на кнізе «Невадам з Нёмана»: «Аляксею Карпюку і ягонай сямейцы з вялікай павагаю і пашанаю — аўторка. *(Зэльва. 16.03.68)*». Разумею: трэба мець вялікую вернасць духоўным асновам жыцця,каб, нягледзячы на прыгнечанасць зласесным лёсам, хацець і мець што сказаць людзям.

Не змагла зразумець, што гэта — падарунак жыцця: ішла па гара-дзенскім вуліцам з самім Міхасём Забэйдам, прымала яго ў хаце і перажывала, што няма «шчэй уральскіх з грыбамі», слухала яго песні на канцэрце ў Гродне, чытала яго лісты да Аляксея Нічыпаравіча з сардэчнымі словамі: «А пакуль што шлю ўсім Вам, вялікім і малодшым, шчырыя прывітанні. Абнімаю і цалую. Ваш Міхась Забэйда *(Прага. 30.12.64)*». Перачытваю сёння гэтыя лісты, афіцыйны праспект да канцэртаў з партрэтам, на якім ён такі малады і пекны, перачытваю дазволенае апісанне яго жыцця: Пружанскі раён, дзе ён нарадзіўся; Маладзечанская настаўніцкая семінарыя, дзе знаёміўся з музычнай граматай; Харбін, дзе вучыўся ў Ю.Плотніцкай, даўняй партнёршы Шаляпіна, і менавіта там упершыню выступіў як прафесійны спявак у оперным тэатры; Італія, дзе Ф.Карпі — настаўнік вялікага Каруза — згадзіўся вучыць М.Забэйду; Польшча і нацыянальная опера ў Празе; Вільня, дзе ён пазнаёміўся з М.Танкам і Р.Шырмай. У гэтым роўным апавяданні няма месца сапраўды складанаму жыццю артыста. А ў лісце: «...не дайшоў я туды, куды хацелася, не зрабіў столькі, сколькі мог бы зрабіць, але ж ужо вельмі крэмяністым быў мой жыццёвы шлях. Часамі проста дзіўлюся, што яшчэ жыву на свеце. Было нас у маткі сямёра. З усіх адзін я дажыў да старшага веку *(Прага, 28.11.1963)*». І ў кожным лісце такое гаротнае чаканне сустрэчы з Бацькаўшчынай: «Спадзяюся, што Мінск на гэтыя канцэрты дастане ад Масквы дазвол. Тады і паспяваем і пагаворым!». Вось так! Калі атрымаў гэты дазвол, радаваўся: «Запрасіны на Радзіму былі для мяне вялікай узнагародаю за ўсё тое, што прыйшлося выцерпець, несучы нашу песню ў свет. *(Прага, 28.11.63)*». Ён прыехаў і спяваў у Мінску, у Ваўкавыску, у Гродне. Канцэрт у Гродне памятаю цеплынёй беларускіх песен. А калі артыст заспяваў «Калыханку мамы», хацелася плакаць —такія незвычайна сардэчныя адносіны ўсталяваліся паміж залам і сцэнай. Ён спяваў рускія, украінскія, польскія, чэшскія, нямецкія, англійскія, італьянскія, іспанскія песні. Трыццаць гадоў ляжыць у хаце запісаны на магнітафонную стужку голас спевака, але ніколі не хацелася паўтарыць той канцэрт, — можа, баюся сапсаваць тое, шчаслівае, непаўторнае... Мяркую, што і Міхась Забэйда не проста спяваў у канцэрце, ён сустракаўся з «пяшчотнаю бязмерна, пакутнаю зямлёй сваіх дзядоў». І хутка аб гэтым напісаў Аляксею Нічыпаравічу: «Моцна мяне радуе, што канцэрт мой спадабаўся і слухачам Гродна, бо ў гэту працу я ўлажыў усё сваё жыццё. Веру, што па мне прыдуць маладыя, таленавітыя, здаровыя і працавітыя, і загучыць наша песня шырока, далёка і высока, а галоўнае — будзе рабіць людзей лепшымі. Пачатак зроблены! *(Прага, 30.12.64)*». Як па-сённяшняму гучаць яго разважанні аб роднай мове! Не, хлопцы, той, хто хацеў ці хоча яе ведаць, не патрабуе рэпрэсій. Як спрабуюць сёння паказаць беларускіх адраджэнцаў нават дэпутаты, што самі не хочуць ведаць ні гісторыі, ні мовы народа. Гэтая справа патрабуе місіянерскай, цяжкай і доўгай працы. І вось што піша гэты чалавек, адарваны ад Бацькаўшчыны: «...вельмі рад прачытаць Вашу творчую працу ў роднай, беларускай мове, дарагі Аляксей Нічыпаравіч, бо гэтаю мовай гаварыла да мяне мая маці, якой я забавязаны і сваім жыццём, і ўсім тым добрым, што ў сабе маю, а галоўнае — песнямі, якім яна мяне навучыла, і якія я, дзякуючы сваёй маці, дагэтуль магу раздаваць людзям... *(Прага, 30.12.64)*».

У лістах М.Забэйды столькі зацікаўленасці да Радзімы, да яе духоўнай культуры: «З поспехаў нашае мастацкае літэратуры і я радуюся і чытаю, калі час пазваляе. Многія аўтары прысылаюць мне свае творы, а сустрэчы ў Мінску з пісьменнікамі, для якіх рабіў спецыяльны канцэрт, належаць да найпрыгажэйшых у маім жыцці. *(30.12.64)*».

І сёння саграе душу ягоная гарачая зацікаўленасць усім родным, беларускім: «Цяпер чытаю Я.Брыля і Скрыгана, якія прыслалі мне свае творы. Васіля Быкава тут, у Празе, не знайшоў. А рад бы прачытаць. Калі ў сябе Вы маеце, пазычце. Прачытаю і вярну. *(Прага, 13.03.64)*». Прабачце, што асабліва хачу выдзеліць напісанае Аляксею Нічыпаравічу пра яго «Дануту»: «Вялікую радасць зрабілі Вы мне сваім падарункам: «Данута» ды яшчэ з такім надпісам, якім чалавек можа ганарыцца! Кніжку чытаў, мала сказаць з зацікаўленасцю, чытаў з захапленнем. У Вільні і сам бываў, і ўсё тое, аб чым Вы пішаце, мне вельмі блізка. І думак, і пачуццяў супольных там знайшоў столькі, што аж здзівіўся. Да Вашае кніжкі яшчэ не раз вярнуся! *(Прага, 30.12.64)*». А праз паўгода піша: «Дарагі А.Н.! Вялікае дзякуй за кніжку «На лясных сцежках». Прачытаў з вялікім зацікаўленнем. Адзін раз чытаючы, нават забыўся, што маю лекцыю спеву. І вельмі здзівіўся, калі пачуў званок вучня. Каго гэта прынесла нялёгкая? — падумаў. Вы ўмееце ўглядацца, умееце бачыць і разумееце, што бачыце. *(18.07.64)*».

Спрабуем і мы ўбачыць і зразумець самы глыбокі, патаемны сэнс, прачытаем гэты ліст далей: «Як ведаеце, паўторнае падарожжа на Радзіму, да якога рыхтаваўся, усё яшчэ не адбылося (не па маёй віне!..). І я пакуль што спяваю: «Бросаю в землю зёрнышко маковое»... Хоць кветкі, мусіць, і не дачакаюся, але веру, што яна будзе, іначай не мог бы спяваць». У кожным слове адчуваеш самотнага, адарванага ад Радзімы чалавека...

Пішу вам і думаю: ці маю права выносіць на людзі тое, аб чым пісалі адзін аднаму два суразмоўцы. Яны пайшлі з жыцця, у іх нельга папрасіць дазволу. Але ж магчыма, колішнія размовы дапамогуць дакрануцца да патаемнага свету асоб, што пакінулі свой след у нашай культуры, зразумець іх боль за Беларусь, іх шчырае служэнне роднай зямлі.

**Інна КАРПЮК.**

# КУЛЬТУРА — ПРАЗ ЖАРАЛО РЫНКУ

Сёння беларуская культура і, шырэй, шматнацыянальная культура Беларусі знаходзіцца ў вельмі складаным, можна смела сказаць — крызісным стане. Старая дзяржаўная сістэма, заснаваная на жорсткім нармаванні зверху, ужо аджыла свой век; яна не мае дастатковых сродкаў на фінансаванне культуры. Новая ж, заснаваная на дэмакратычных прынцыпах, ініцыятыве, рынавых адносінах, яшчэ пакутліва нараджаецца. Скарацілася традыцыйнае засваенне культурных даброт, новыя ж, сучасныя формы з цяжкасцю прабіваюць сабе дарогу.

У такіх, неадназначных умовах вельмі карысным з'яўляецца кожнае даследаванне, якое абапіраецца на фактычны матэрыял і адначасова дае канкрэтныя рэкамендацыі, тэарэтычныя абагульненні. Вось чаму ўсяляк трэба вітаць працу Уладзіміра Скараходава «Мастацкая культура ў дынаміцы сацыяльнага засваення», дзе ўдала спалучаюцца вынікі сацыялагічных апытанняў і іх тэарэтычнае асэнсаванне. Аўтар паказвае, як за апошнія гады змянілася (пераважна зменшылася) выкарыстанне (спажыванне) культурных багаццяў як у гарадах, так і вёсках. Таму назіранні і рэкамендацыі даследчыка будуць мець карысць як для кіраўнікоў у сферы культуры, так і «нізавых» выканаўцаў — тэатральных, бібліятэчных, музейных, клубных работнікаў. Будзем спадзявацца, што кнігу таксама прачытаюць прадпрымальнікі.

Сацыялагічны матэрыял даў Уладзіміру Скараходаву магчымасць адказаць (з большай або меншай паўнатой) на пытанні: якія цяпер патрэбы ў гарадскога і сельскага насельніцтва ва ўстановах культуры і мастацтва, якая іх структура найбольш мэтазгодная сёння і ў бліжэйшай перспектыве. Адказы гэтыя павінны быць улічаны нашым грамадствам у паўсядзённай дзейнасці, у планаванні на будучыню.

Пералічваць далей усе дадатныя якасці даследавання няма патрэбы. Але хацелася б, каб у некаторых выпадках аўтар не абмяжоўваўся канстатацыяй факта, часам вонкава парадаксальнага, а даў бы яму тлумачэнне. Скажам, сцвярджаецца, што ў Брэсцкай вобласці, дзе, здавалася б, ёсць усе ўмовы для турызму, наведвання музеяў, колькасць наведнікаў скарацілася амаль удвая. Каментарый тут напрошваецца сам сабой: значыць, раней паказчыкі тут трымаліся на наведніках Брэсцкага мемарыяла з усяго былога Савецкага Саюза. Такі ж парадокс з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці: пры меншай забяспечанасці Брэстчына заняла тут першае месца. Чаму — не сказана. Але, відаць, таму, што на Заходнім Палессі жыве традыцыйная фальклорная культура. Таксама патрабаваў бы каментавання факт, што не сельскае, а гарадское насельніцтва адчувае меншую патрэбу ва ўстановах мастацкай культуры.

У цэлым жа магу сказаць — выйшла добрая і карысная кніжка.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны, доктар філалагічных навук.**

# «Я БЫЎ ЗАБОЙЦАМ...»

## Са сваіх трыццаці чатырох гадоў жыцця пятнаццаць ён правёў за калючым дротам.

МІКАЛАЙ Чыжэўскі нарадзіўся і вырас у маленькім райцэнтры Магілёўскай вобласці. Нарадзіўся, як цяпер кажа, пад шчаслівай зоркай. Але тады, у далёкія гады юнацтва, гэта самая зорка не дужа асвятляла ягоны жыццёвы шлях. Не жаданае, а значыць, і нелюбімае дзіця ў сям'і, з'явілася на свет пасля нечаканай цяжарнасці маці, здаецца, яму суджана было стаць ізгоем, нікому не патрэбным чалавекам на зямлі. Ён рос абдзеленым бацькоўскай любоўю ды пяшчотай... Між тым хлопчык мала чым адрозніваўся ад сваіх равеснікаў: вясёлых і задзірыстых, непасед і рамантыкаў... Спраўна рос па «партыйнай лесвіцы»: быў акцябронкам, піянерам, камсамольцам. Браў актыўны ўдзел ва ўсіх школьных мерапрыемствах і сходах, — які ж ты без усяго гэтага юны ленінец! Цяпер, безумоўна, такое здаецца вельмі смешным...

Але, нягледзячы ні на што, на свядомасць юнака ўсё ж такі свой адбітак паклала бескантрольнасць з бацькоўскага боку. Недагледзелі? Недавыхавалі? З цягам часу захапленне дзіцячымі ідэалагічнымі гульнямі пачало здавацца не чым іншым, як пустой бессэнсоўнасцю. З'явілася прага паспытаць дарослага жыцця, прага да незвычайнага, дагэтуль нязведанага.

Задоўга да заканчэння школы Мікалай паспеў адчуць смак горкага шызага дыму тады яшчэ капеечных цыгарэт, прысмак кіслага віна, не аднойчы распітага ў шумнай кампаніі пад гітару дваровага «маэстра». Удзельнічаў у бойках з варожымі групоўкамі з розных мікрараёнаў, на якія быў падзелены горад.

Але і гэта ўсё здавалася часовым, кароткаймгненным. Быў упэўнены, што рана ці позна зможа выбрацца з гэтых путаў. Вось толькі не ведаў, што такой цяжкай цаной.

Аднойчы, прагульваючыся па начным горадзе, пасля святочнай дыскатэкі, Мікалай з аднакласніцай — сваім першым каханнем, нечакана для сябе перасеклі тэрыторыю «варожага мікрараёна» і неўзабаве пачулі дзесьці непадалёк лямант. Машына, што праехала побач, святлом фараў выхапіла з цемры сілуэты раз'юшаных юнакоў. Раптам на Мікалая і дзяўчыну пасыпаліся абразлівыя словы.

Тут бы збочыць з дарогі, схавацца далей ад граху і згубіцца ў глухіх дворыках. Але тады для Мікалая гэта азначала адно — паказаць сябе слабаком перад каханай і баязліўцам перад ворагам. Таму і вырашыў крочыць проста, не зважаючы на вясёлую кампанію, яшчэ мацней прыціскаючы да сябе крохкую дзявочую фігурку. І сутычкі нельга было пазбегнуць, бо тыя так проста не адставалі. Распітая нядаўна бутэлька гарэлкі цягнула на геройчны ўчынак, і хлопцы з кулакамі кінуліся на смельчака.

У няроўнай бойцы Мікалай выйшаў пераможцам. Сапраўды, моцы яму было не займаць. І не мог ён у парыве нянавісці так проста ўсё спусціць з рук сваім крыўдзіцелям.

З цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі адзін з хлапцоў быў дастаўлены ў бальніцу. Але і на гэтым гісторыя не скончылася. «Злоснага хулігана» Мікалая чакаў суд. Закон яўна быў не на баку абаронцы сваёй годнасці. Хлопчыку з простай сям'і, якому з бойкі пашчасціла выйсці цэлым і здаровым, вынеслі прысуд: два гады пазбаўлення волі.

Апісваць усю «прыгажосць» жыцця за калючым дротам не мае сэнсу. Бязмежжа на «зоне» плюс адсутнасць веры ў справядлівасць паклалі на свядомасць юнака балючы адбітак.

З месцаў не вельмі аддаленых Мікалай выйшаў агрубелым, злосным на ўсіх людзей. Рады быў бы зажыць нармальным жыццём, уладкавацца на працу, завесці сям'ю. Але куды там! Каму патрэбны лішнія клопаты з асобай без адукацыі і спецыяльнасці, яшчэ і з крымінальным мінулым? У родным горадзе ён быў нікому не патрэбны.

Прайшло некалькі месяцаў «вольнага існавання» без працы і заробку. Але, зразумела, усё жыццё не будзеш сядзець на карку ў маці ды бацькі. Таму і вырашыў Мікалай пайсці красці. Для гэтых мэтаў скалаціў вакол сябе невялікую групоўку з такіх, як ён сам, хлапцоў-"аднадумцаў". Разам выпраўляліся на начныя заробкі.

Пра Мікалая хадзіла па горадзе благая слава. Убачыўшы яго на вуліцы, прахожыя пераходзілі на іншы бок. Калі ён заходзіў «павесяліцца» на дыскатэку, маладыя парачкі хуценька спяшаліся разбегчыся па дамах. І было ад чаго. Мікалай быў аўтарытэтам у крымінальным свеце горада. Неўзабаве стаў і самім, так бы мовіць, «каралём» райцэнтра пад «партыйнай» мянушкай «Мазэпа». Гэтая «пасада» перайшла яму ў спадчыну ад папярэдніка, што з нядаўняга часу быў пазбаўлены волі. І воўчая зграя засталася без свайго правадыра. Але нядоўга цешыўся сваёй свабодай і Мікалай. Пасля ўдала праведзенай следчымі органамі вышукной аперацыі «Мазэпа» быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Зноў суд, пасля якога хлопца чакала калонія асобага рэжыму. Сваё трэцяе пакаранне Мікалай атрымаў ужо на «зоне» за забойства сукамерніка.

Такім чынам, са сваіх трыццаці чатырох гадоў — пятнаццаць Мікалай правёў у турме. Уся ягоная маладосць прайшла за калючым дротам... Іншага жыцця нават сабе і ўявіць не мог. Адвыкнуўшы ад простых чалавечых адносінаў, Мікалай па меры набліжэння доўгачаканага дня вызвалення, усё больш турбаваўся: ці зможа ён, нарэшце, зажыць па-новаму і як прымуць яго на волі пасля столькіх гадоў? Здавалася, яму, асабліва небяспечнаму рэцыдывісту, ніколі не будзе даравання. Пачаў з разумення таго, што жыццё трэба мяняць. Але як? Людзі, якія яму ўжо некалі здрадзілі, спісалі з рахункаў грамадства, наўрад ці змогуць яму дараваць, зразумець, бо займаюцца толькі сабой. Вакол пануе эгаізм, нянавісць, варажэча, зайздрасць... Людзі крывадушнічаюць...

Што рабіць? У сэрцы неаднаразова закрадваўся адчай. Лягчэй за ўсё было накласці на сябе рукі. Але Мікалай апусціўся на калені і ўпершыню звярнуўся да Усявышняга.

— Да нядаўняга часу маё жыццё нагадвала сапраўдны дэтэктыўны раман, — разважае Мікалай. — Аднак, усё ж Богу было ўгодна, каб я з'явіўся на свет. Асаблівай радасці нікому не прыносіў. Колькі перажыў сам, колькі мае родныя. Браў ад жыцця ўсё... Прасвятленне прыйшло на зоне пры знаёмстве з баптысцкімі святарамі, якія спрабавалі данесці да нашых разлютаваных сэрцаў слова Божае.

Я многае перадумаў, прааналізаваў пасля такіх сустрэч. І паступова зразумеў: такая несправядлівасць, што пануе вакол, мае карані — гэта не магло з'явіцца раптоўна. Вырашыў для сябе, што трэба быць пакорлівым. Захацелася расказаць людзям аб Ісусе Хрысце, аб ягонай любові да чалавецтва. Я нібы стаў відушчым. Перажыўшы асабістае знаёмства з Хрыстом, чалавечая прырода здольная змяніцца. Гэта і ёсць сапраўдны цуд.

На адным са спатканняў у турме з маці Мікалай сур'ёзна расказаў аб намеры не толькі змяніць сваё жыццё, а і прысвяціць яго веры ў Бога. Пасля такіх слоў жанчына сумна ўсміхнулася, але па яе вачах можна было ўлавіць надзею на перавыхаванне сына.

— Для мяне цяпер ісціна — у Богу, — кажа Мікалай. — І калі ў мяне пытаюцца, ці буду я помсціць сваім ворагам, я толькі ўсміхаюся. Бог навучыў мяне любіць усіх, сваіх ворагаў таксама.

І пра сэнс жыцця я цяпер зусім па-іншаму мяркую. Памятаю, як аднойчы, яшчэ на зоне, падышоў да мяне чалавек сталага ўзросту, за плячыма якога некалькі адседак, мо, большую частку свайго жыцця ён правёў за кратамі, ведаў пра маё захапленне рэлігіяй і бачыў усе тыя змены, што адбываліся са мной апошнім часам, доўга глядзеў на мяне, пакуль не запытаў: «Скажы, Мікола, ці можна пасля таго, што ты натварыў за столькі гадоў, верыць і жыць? Ці можна прасіць у Бога даравання?» «Можна і трэба», — толькі адно мог я адказаць яму тады.

Ужо больш за год мінула з таго часу, як Мікалай вярнуўся з былога месца зняволення. Жыве ў родным горадзе, дзе прайшло ягонае дзяцінства, выступае са сваімі споведзямі ў малельным доме, на якія заўсёды збіраецца шмат людзей. Са словам божым ён наведвае дамы састарэлых, бальніцы. Збірае ахвяраванні для хворых і бедных. Многія адчулі ў ім патрэбу. У гэтым цяпер Мікалай і бачыць увесь сэнс свайго далейшага жыцця.

Цяпер на адрас Мікалая прыходзіць шмат лістоў з усіх куткоў былога Саюза, ад такіх жа, хто збочыў з дарогі, як ён сам. Яны просяць дапамогі, парады. У Мікалая нават мара з'явілася — стварыць тэлефон даверу, па якому кожнаму, хто апынуўся ў складанай сітуацыі, хацеў бы дапамагчы і словам божым і рэальна.

— Маё жаданне, каб людзі спазналі жывога Бога, Бога, які здольны перамяніць чалавека ва ўсіх яго падыходах і думках. Так, я быў забойцам! Але я ўжо даўно раскаяўся перад Усявышнім ва ўсіх сваіх грахах. Дзякуючы веры я знайшоў спакой. Я быццам перарадзіўся нанова. Безумоўна, лягчэй было раней. Я толькі браў. Браў сілай, быў ганарлівым. Сённяшнія цяжкасці мяне не пужаюць. Я патрэбны людзям. Яны клічуць мяне, прыходзяць самі, каб паслухаць мае споведзі. Ды й у маёй душы не стала пустаты. Я паверыў у каханне без карысці.

... Аднойчы, калі Мікалай быў у Смаленску на курсах, дзе такіх як ён, вучылі прапаведаваць, даносіць слова боскае да людзей, і з некалькіх дадзеных слоў трэба было скласці невялічкі трактат, ён узяўся за ручку і чысты аркуш паперы і на адным дыханні напісаў:

«Усё сваё свядомае жыццё я імкнуўся любіць. Але ў сэрцы маім сапраўднай любові так і не нарадзілася. Тое, што здавалася цудоўным і вытанчаным, у канчатковым выніку аказвалася будзённым і простым. Жыццё імкліва ляцела наперад, а я, як дрэнны майстар, не ў стане быў будаваць сваё жыццё гарманічна. Але назіранні паказвалі, што гармонія існуе ў прыродзе, дзе ёсць нейкі свой закон. І аднойчы я зразумеў, што ўсё гарманічнае, дакладнае, узвышанае і цудоўнае толькі ў Богу. Ён жа стварыў нас, і мы ёсць Яго душа. Слава Яму. Амінь».

Зразумела, цяжка паверыць ў такое перараджэнне асобы. Прадбачу, знойдуцца скептыкі, што будуць прытрымлівацца такога гледжання, але не судзіце, ды не судзімыя будзеце. У такім выпадку хочацца сказаць адно: Бог — усяму сведка, ён і рассудзіць.

Ганна РАЗБІТНЁВА,
Міхась РЭВУЦКІ.

Быхаў — Мінск.

# ЯК СЯКЕРАЙ ПА ГАЛІНКАХ



...Не магла ўтрымацца, каб не напісаць вам, бо тэма, закранутая ў артыкуле М.Рэвуцкага «Хачу быць з татам. Непрыдуманая гісторыя», што апублікаваны ў N14, не пакінуў мяне абыякавай, прымусіўшы ўзяцца за пяро. Тэма страчанага дзяцінства апошнім часам часта ўзнімаецца ў сродках масавай інфармацыі, але, мне падаецца, людзі бачаць звычайна толькі вяршыню гэтага айсберга і не задумваюцца аб глыбокіх унутраных прычынах гэтай жахлівай з'явы.

Я працую ўжо шмат гадоў суддзёй у адным з раённых судоў нашай сталіцы, і сфера маіх службовых абавязкаў — грамадзянскія справы, што датычацца шлюбна-сямейных адносінаў і скасавання бацькоўскіх правоў. Не магу нават перадаць вам, які боль і смутак перапаўняюць сэрца, калі ў выніку судовага расследавання даводзіцца прымаць жорсткае, але адзіна правільнае рашэнне: пазбавіць бацькоўскіх правоў. За гэтым — паламаныя лёсы дзяцей, слёзы, гора, адзінота. Але — лепей так, бо інакш дзіця проста не выжыве.

... Часта задаю сабе пытанне, чаму ж так адбываецца? Чаму бацькі адмаўляюцца ад сваіх дзяцей, чаму сякуць па іхніх лёсах, як сякерай па галінках дрэва? Але дрэва вясной зноў зазеляне, сілкуючыся жыццядайнымі сокамі зямлі-маці, паламаныя ж дзіцячыя душы склеіць ужо немагчыма... А колькасць справаў па пазбаўленні бацькоўскіх правоў, прынятых мною да вытворчасці, няўмольна павялічваецца. Калі летась у мяне за год было іх васемнаццаць, то сёлета ўжо за першы квартал — больш за дваццаць. Нашае складанае, нестабільнае жыццё б'е перш за ўсё па тых, хто слабейшы... А гэта, безумоўна, дзеці, бо, хаця і прыняты ўжо Вярхоўным Саветам Закон аб абароне правоў дзіцяці, але на практыцы мы, работнікі праваахоўных органаў, часцей за ўсё сустракаемся не з выкананнем, а з парушэннем гэтага закону.

Не магу не прывесці некалькі прыкладаў з маёй практыкі ў пацвярджанне гэтых развагаў.

Летась я вынесла рашэнне аб скасаванні мацярынскіх правоў жанчыны-маці, якая мае чатыры дачкі (старэйшай — адзінаццаць гадоў, маленькай — толькі чатыры). Бацька памёр тры гады таму, маці дзяўчынак спачатку вельмі перажывала, але неўзабаве пачала весці «вясёлае жыццё», паступова ўсё больш аддаляючыся ад дзяцей. У чатырохпакаёвай кватэры пачаліся п'янкі, што часта заканчваліся прыездам міліцэйскага «газіка». Суседзі, сведчанні якіх я збірала пры падрыхтоўцы рашэння па гэтай справе, расказвалі мне потым, што дзяўчынкі наведвалі магілу бацькі на Паўночных могілках. Яны ездзілі туды, без маці, садзілі і даглядалі кветкі. Калі адна з суседак папыталася ў старэйшай з дзяўчынак, ці не страшна ім ехаць так далёка, дык пачула ў адказ: «Не. Лепей бы мама памерла, а тата ўваскрос...» Старая жанчына плакала, распавядаючы мне пра гэта...

Суд вынес рашэнне, і дзяўчынкі жывуць зараз у дзіцячым доме-інтэрнаце. Але мяне непакоіць іншае: цяпер, калі прыняты Закон аб прыватызацыі жылля, многія бацькі-недарэкі прыватызуюць кватэры, што належаць, уласна кажучы, іхнім дзецям, і перапрадаюць іх потым зусім чужым людзям. А дзеці, узгадаваныя ў дзіцячых дамах за кошт дзяржавы, не маюць потым нават свайго кута, прапіскі. Пачынаюцца бадзянні... Часта былыя «дзяржаўныя» дзеці застаюцца без даху над галавой, трапляюць у кепскія кампаніі, і зноў пачынае круціцца «крымінальнае кола»... Ці не зробіць так маці Аксаны і яе сястрычак? Трывожна неяк...

... Некаторыя, з дазволу сказаць «бацькі», успрымаюць скасаванне бацькоўскіх правоў не як трагедыю, не як пакаранне, а як палёгку: маўляў, карміць-апранаць цяпер не трэба, хваляваца болей няма за каго. І яны працягваюць сваё амаральнае жыццё коштам няшчасця ўласных дзяцей.

Яшчэ адзін жахлівы выпадак з маёй службовай практыкі, пра які мне абавязкова хацелася б расказаць. Участковы міліцыянер, што прынёс дакументы на ўзбуджэнне грамадзянскай справы, распавёў аб тым, як суседзі выклікалі яго ўначы, бо гадзіны дзве запар у адной з кватэр шматпавярховага дома надрывалася, заходзілася крыкам немаўля. Калі прыехала міліцыя ды ўзламала дзверы, дык убачыла вось што: у пакоі расчынена вакно, п'яная маладая жанчына спіць на ложку, на падлозе ляжыць у непрытомным стане таксама п'яны мужчына, у калысцы крычыць пасінелы ўжо ад холаду дзіцёнак. А побач з ім — у калысцы — сядзіць сабака, аблізваючы і саграваючы яго...

Урач дзіцячай бальніцы, куды трапіў потым малы, казала, што калі б не сабака, дзіця б загінула... Жывёла і тая зразумела, што бездапаможнае немаўля трэба ратаваць. Ці ж можна звярнуцца да такой жанчына са словам «маці»?

І апошняе, што хацелася б выказаць. У артыкуле «Хачу быць з татам. Непрыдуманая гісторыя» гаворка ідзе пра жанчыну, якая спачатку страціла, а цяпер хоча вярнуць давер, павагу і любоў свайго, ужо не такога і малога сына. І хаця яе асоба не выклікае ў мяне асаблівай сімпатыі, я ўсё ж думаю: гэта — не горшы выпадак. Лепей позна, чым ніколі...

Л.Ц.

г.Мінск.

ЖЫВЫ ЭФІР

# НЕ АБМІНУЎ НАС «ЗЭПІНГ»?

*З ТАГО дня, як у нашым штотыднёвіку (N12) быў змешчаны ліст «Гульні ў паўторы» аб стане рэкламы на Беларускім тэлебачанні, шмат чаго змянілася. Прынамсі, Пастановай Савета Міністраў Белдзяржтэлерадыёкампанія перайменавана цяпер у Дзяржаўны камітэт па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Аднак праблемы «лішняга» эфірнага часу па-ранейшаму вельмі яскрава адлюстроўваюцца на блакітным экране, выклікаючы ці не алергічную рэакцыю ў тэлегледачоў...*

Такому вынаходніцтву падзівіўся б сам Астап Бэндэр. БТ прадае эфірны час фірмам, бо стары-стары 30-серыйны тэлесерыял каштуе 20 тысяч долараў, а такой сумы БТ днём з агнём не знойдзе. Таму фірмы самі купляюць «мыльныя оперы», а Беларускае тэлебачанне пад іх, фірмаў, рэкламу бясплатна адводзіць час (як правіла — самы лепшы: у вячэрнім блоку тэлепраграм). Але ж, зразумела, не за так. Фірма пракручвае рэкламу ў «сваім» серыяле, прычым, тэлеканал спачатку ад яе не атрымлівае ні капейкі. Але толькі спачатку. Як толькі фірма на рэкламе зарабляе тыя самыя 20 тысяч долараў, даходы ад далейшага паказу ненавіснай гледачу тэлепрадукцыі пароўну дзеляцца паміж БТ і фірмай. Словам, ніхто з партнёраў не пакрыўджаны, а БТ за выручаныя грошы можа аплаціць адну ці некалькі новых перадач. Але ці выйграе ад такога супрацоўніцтва глядач? Трэцегатунковыя «мыльныя оперы» выглядаюць убогімі ў параўнанні нават з «Санта-Барбарай», якую паказвае Расійскі тэлеканал. Да таго ж, міжнародных стандартаў па паказе рэкламы, зразумела, далёка не заўсёды прытрымліваюцца і нашы фірмы — практычна распараджаюцца эфірным часам яны. У выніку — кожная серыя фільма да ванітаў нашпігавана рэкламныміролікамі. Рэкламныя паўзы на БТ па прынятых стандартах павінны займаць не больш за 10 працэнтаў у гадзіну эфірнага часу, гэта значыць шэсць хвілін. Хоць у загадзе N12-п па Беларускім тэлебачанні ад 12 студзеня 1994 года «Аб новых тарыфах і грашовых эквівалентах аплаты паслуг тэлерадыёкампаніі Беларусі» за подпісам старшыні ТРК А.Сталярова пункт 8 сцвярджае: «Спонсарскія тэле- і радыёпраграмы. Права вызначыць іх змест, накіраванасць, мову і месца ў эфірным раскладзе належыць выключна тэлерадыёкампаніі. За спонсарам захоўваецца права дарадчага голасу», але хто плоціць, той і заказвае музыку.

Цікавае рашэнне праблемы знайшлі і так званыя спонсарскія праграмы. Імі займаецца Галоўная рэдакцыя студыі заказных праграм і рэкламнай інфармацыі. Такіх перадач на БТ усяго восем.

Адна з найбольш вядомых спонсарскіх тэлепраграм — «Відзьманявідзьма». Яе цалкам за свае грошы робіць незалежная тэлекампанія «World TV». Беларускаму тэлебачанню застаецца прагледзець перадачу, пераматаць стужку і пусціць яе ў эфір. Паверце, гэта намнога танней, чым рабіць перадачу цалкам уласнымі сіламі, бо гадзіна вытворчасці каштуе дванаццаць мільёнаў рублёў, гадзіна эфіру — шэсць мільёнаў, у той час як гадзіна трактавага часу — трыста дзевяноста тысяч рублёў, а гадзіна відэазапісу — сто пяцьдзесят тысяч. БТ ад гэтага толькі выйграе, таму што амаль задарма эфір запаўняецца неблагімі тэлеперадачамі.

Закрануўшы своеасаблівую балячку гледачоў — тэлерэкламу, нагадаем расцэнкі на яе. У вячэрнім блоку тэлеперадач (з 18 да 24 гадзін) паказ пятнаццацісекунднага рэкламнага роліка каштаваў нядаўна 360 тысяч рублёў ці 50 долараў, паўхвіліннага —540 тысяч ці 70 долараў, хвіліннага — 760 тысяч ці 100 «зялёных». Вытворчасць рэкламнай прадукцыі, якою таксама займаецца БТ, даражэйшая. Вытворчасць хвіліннага рэкламнага сюжэта абыходзіцца ў 2 мільёны рублёў ці 295 долараў. За кліп такой жа працягласці трэба выкласці са сваёй кішэні 3 мільёны ці 440 «баксаў», а выдаткі на хвілінны рэкламны фільм складаюць 6 мільёнаў ці 880 долараў. Прычым трэба памятаць, што пры нестабільным курсе «зайчыка» да долара рублёвы кошт рэкламы пастаянна мяняецца. І яшчэ. У дзённы час паказ рэкламы ўдвая таннейшы, чым у вячэрнім блоку тэлеперадач.

Разабраўшыся з расцэнкамі, можна ісці далей. Тым больш, што ў рэкламнай кампаніі Беларускага тэлебачання існуе процьма нюансаў. Да прыкладу, ужо ў памянёным загадзе Старшыні тагачаснага Белдзяржтэлерадыёкампаніі А.Сталярова N12-п вызначаны цвёрдыя стандарты — як, колькі і дзе можна паказваць рэкламу. Не мае сэнсу пераказваць іх сваімі словамі — не хочацца быць галаслоўным. Так што лепш за ўсё прывесці вытрымкі з дакумента. І хоць яны напісаны ў жорсткіх рамках канцылярызмаў, цікавасць да іх бязмежная.

У пункце 5 дадатку 4 напісана: «Дырэкцыям праграм тэлебачання і радыёвяшчання, творчым аб'яднанням, студыям прывесці з устаноўленым парадкам нормы размяшчэння рэкламнай інфармацыі, не дапускаючы парушэнняў для яе аб'ёмаў — 10 працэнтаў ад працягласці выпуску: паміж перадачамі — не больш 10 працэнтаў ад агульнага аб'ёму дзённага вяшчання; — у перадачах — паміж аўтаномнымі іх часткамі ці пры ўмове непарушэння цэласнасці і мастацкай якасці праграмы; — у мастацкіх фільмах, прамых трансляцыях і канцэртных праграмах: пры 30-хвілінным аб'ёме — тры хвіліны, 60-хвілінным — шэсць хвілін і, адпаведна, пры 90-хвілінным — дзевяць хвілін.

Прычым, агульны аб'ём рэкламнай інфармацыі не павінен перавышаць шасці хвілін на гадзіну вяшчання і ўваходзіць у вызначаны аб'ём перадачы, а чарговы перапынак для рэкламнай паўзы рабіць не раней, чым праз сорак пяць хвілін...»

Прыведзеныя стандарты набліжаюцца да міжнародных. Але гэта — не догма. Нярэдка на ўстаноўленыя стандарты тэлевізійшчыкі проста заплюшчваюць вочы. Можна добра прасачыць гэтую тэндэнцыю на прыкладзе тэлесерыялаў, дзе, па жаданні фірмы, што купіла «мыльную оперу», рэкламны блок ідзе не шэсць хвілін у гадзіну, а доўжыцца дзесяць, а то і ўсе пятнаццаць хвілін. БТ цяжка расставацца з тымі «слязьмі», якія застаюцца яму ад рэкламы, і тэлеканал прымае ўмовы той або іншай фірмы. Але ў межах дазволенага.

Што да зместу рэкламы, то тут кантроль больш жорсткі. У згаданым загадзе ёсць такі сказ: «Забараняецца рэклама медыцыны, медыцынскага абслугоўвання, нетрадыцыйных метадаў лячэння і прадуктаў харчавання для дзяцей без заключэння Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь». Тут не патрабуюцца асаблівыя каментары — і так усё ясна. Да таго ж накладзена табу на рэкламу тытунёвых і алкагольных вырабаў. «Астанкіна», дапусцім, знаходзіцца з гэтага пункту гледжання ў горшым становішчы, чым БТ. Расійская тэлекампанія заключыла доўгатэрміновыя дамовы з фірмамі, а тут — бац! — рэкламаваць цыгарэты і гарэлку дзяржава забараняе. Трэба выкручвацца, балансуючы паміж двух агнёў — фірмамі і заканадаўствам. У БТ ж такіх праблем не ўзнікае.

Але ж... «Рэкламныя тэлевізійныя ролікі, гэтыя міні-шэдэўры камерцыйнага мастацтва, разыгрываюць за 20 — 30 секунд эфірнага часу сцэнкі-прадстаўленні смешныя, займальныя, бездакорныя па драматычнасці», — пісаў даследчык амерыканскага тэлебачання Г.Аганаў. Гледзячы «ТэБэКашную» рэкламу, міжволі засумняваешся ў слушнасці гэтай думкі: рэкламныя творы, скажам так, за рэдкім выключэннем, прымітыўныя, шэрыя, манатонныя. Калі тэлегледачы ўжо не ўспрымаюць такую рэкламу, то многія з беларускіх рэкламадаўцаў увогуле не маюць патрэбы, па іх словах, у рэкламе. А калі і даюць рэкламу, то «не простую, а вельмі простую», ад якой аж ванітаваць цягне. Даецца лагатып з эмблемай фірмы і тэлефонам. Каму трэба, маўляў, той зразумее. І БТ мусіць прымаць умовы «фірмачоў» — яно не такое ўжо багатае. Мякка кажучы.

Хоць і беларускія тэлевізійшчыкі не лыкам шытыя, і таксама ўмеюць рабіць неблагую рэкламу, але пакуль рэкламадаўцы не будуць адчуваць вострай канкурэнцыі — выжыць ці абанкруціцца? — на добрую рэкламу на БТ будзе дэфіцыт. А значыць, распаўсюджаная на Захадзе ў 80-я гады з'ява пад назвaю «зэпінг» (ад «zap!» — «бац!», «бах!», «трах!») набірае моцы і ў нас, на Беларусі: як толькі рэклама з'яўлялася на тэлеэкране, гледачы пры дапамозе блока дыстанцыйнага кіравання пераключаліся на іншы канал. Праўда, «зэпінг» беларускі некалькі спецыфічны: пераключацца даводзіцца ўручную.

Цяжка яшчэ штосьці дадаць да ўжо сказанага. Варта нагадаць толькі, што даходы ад рэкламы Беларускага тэлебачання знаходзяцца ў аблозе падаткаў на дабаўленую вартасць, чарнобыльскага падатку і г.д. Так што, у рэшце рэшт, у кішэні БТ застаецца толькі пятнаццаць працэнтаў ад грошай, зароблених на рэкламе.

Што ж, можна, вядома, паспачуваць жабрацкаму стану Беларускага тэлебачання. Але яшчэ больш — тэлегледачу, якому ўсё роўна, хто плоціць, але далёка не ўсё роўна, якая музыка будзе гучаць.

**Адам ДУБЧЫК.**

## Грамадзяне незалежнай Беларусі!

У час, калі наменклатурны Вярхоўны Савет і пракамуністычны Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццяўляюць паўзучы бальшавіцкі пераварот, уцягваюць наш народ у вайсковыя, палітычныя пагадненні ды эканамічныя зоны і лагеры, спрабуюць узяць рэванш за паразу ў жніўні 1991 года, рабочыя Беларусі ў знак пратэсту супраць пагаршэння жыцця выйшлі на бестэрміновы палітычны страйк. Яны бачаць, што наменклатура вядзе справу да цiхай ліквідацыі незалежнасці Беларусі. Яны бачаць, як умацоўваюцца старыя прарасейскія структуры і ствараюцца новыя. Яны ведаюць, што ніякі саюз, ніякае аб'яднанне з нестабільнай, да таго ж палітычна агрэсіўнай з імперскімі амбіцыямі дзяржавай не палепшыць наш дабрабыт, не прынясе спакой у нашыя сем'і, не дасць нам упэўненасці ў нашай будучыні. І яны пратэстуюць супраць антынароднай палітыкі.

Мы, мастакі і мастацтвазнаўцы творчай суполкі «Пагоня», цалкам падтрымліваем гэтую вымушаную акцыю пратэсту. Мы патрабуем ад праваахоўных органаў Беларусі спыніць антызаконны пераслед актывістаў страйкавага руху Козела, Зіміна, Майсіевіча, Абразцова ды іншых. Мы патрабуем спыніць бессаромнае цкаванне дэпутата Вярхоўнага Савета Антончыка, іншых членаў парламенцкай апазіцыі.

Мы патрабуем спыніць націск на прэсу і сродкі масавай інфармацыі, спробы расправіцца з дэмакратычнымі выданнямі і радыёперадачамі краіны. Мы канстатуем, што ніякія саюзы ці зоны не прынясуць карэнных зменаў у жыцці беларускага народа, а прывядуць да ўзбагачэння кіруючай наменклатуры і карумпаванай эліты нашага чынавенства. Толькі незалежнасць Дзяржавы і народа, якая так цяжка нам далася, толькі няспынная плённая праца і карыстанне плёнам сваёй працы можа прывесці да рэальнага дабрабыту, які ніхто і ніколі ў гісторыі чалавецтва нікому за так не падараваў.

Мы заклікаем усіх сумленных, нацыянальна і палітычна свядомых грамадзянаў Беларусі, асабліва творчую і навуковую інтэлігенцыю, аб'ядначца вакол бастуючых рабочых, вакол ідэі незалежнасці і патрабаваць адстаўкі антынароднага ўрада і Вярхоўнага Савета.

**Рада суполкі «Пагоня».**

3.03.1994 г.

## МУЗЫКА: ГІСТОРЫЯ Ў СУЧАСНАСЦІ

**Напрыканцы сакавіка ў Беларускай акадэміі музыкі пры садзейнічанні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь былі наладжаны Трэція навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці Л.Мухарынскай, «Праблемы этнамузыкалогіі, гісторыі і тэорыі музыкі ў сучасных даследаваннях».**

У канферэнцыі брала ўдзел шырокае кола выступоўцаў: выкладчыкі Акадэміі музыкі, Рэспубліканскага музычнага ліцэя, Мінскай, Маладзечанскай, Гродзенскай, Наваполацкай музычных вучэльняў, супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, госці з Масквы і Вільнюса.

Праграма канферэнцыі складалася з дзвюх частак. Першай —этнамузыкалогіі і другой — гісторыі музыкі.

Здаецца, упершыню даклады ахаплівалі такое шырокае кола пытанняў. Дазволю сабе часткова працытаваць тэматыку: «Рыфматворны Псалтыр» Сімяона Полацкага — В.Цітова (даклад рабіў выкладчык Наваполацкай музвучэльні Л.Сідаровіч), «Канты Епіфанія Славінецкага» (даклад дацэнта БАМ Л.Касцюкавец), «Духоўны верш аб Лазары ў музыцы вуснай і пісьмовай традыцый» (даклад саіскальніка П.Шаматдзінавай). Асабліва ўразілі слухачоў зўрыстычнасцю тэматыкі даклад госця, аспіранта Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі А.Сканаві «Музычная эстэтыка ў новым Кітаі: вяртанне класічных трактатаў» і выступленне вучня 10 класа Рэспубліканскага музычнага ліцэя Д.Сляповіча «Песенна-абрадавы цыкл у ярэзаў Беларусі, прымеркаваны да восенькіх свят». Ужо самі тэмы сведчаць, што абмеркаванне выходзіла на шырокую прастору, не абмежаваную нацыянальнымі рамкамі.

Прыемна, што ў канферэнцыі брала ўдзел шмат юных выступоўцаў. Іхнія сур'ёзныя прамовы дораць спадзяванне, што праблемы гісторыі музыкі заўсёды будуць сучаснымі.

**Наш кар.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

У N13 у артыкуле «Кінадрама з адкрытым фіналам» па віне рэдакцыі дапушчана памылка. У апошнім абзацы артыкула трэба чытаць: «Вытворчасць «Голасу крыві брата твайго» В.Рыбарава была спынена пасля ўдалых кінапробаў з-за нездаровай атмасферы на кінастудыі». Просім прабачэння ў сп.Рыбарава, аўтара артыкула Н.Фральцовай і чытачоў.

**Хто ведае, што цяпер рабіць: сумаваць ці радавацца? Настае новая эра ў мастацтве — відовішчы для багатых. Сярод першых ластавак, якія прыляцелі да нас, дакладней да тых, што змаглі заплаціць за крэсла ў партэры Вялікага тэатра ажно 200 тысячаў «зайчыкамі», — Барыс Майсееў са сваімі асляпляльнымі «лэдзі». Ён, ханжамі ад мастацтва пазбаўлены магчымасці працаваць на Бацькаўшчыне, вярнуўся каралём. Маэстра танца, лепшы артыст Расіі мінулага года, ушанаваны Гран-пры «Авацыя», для сваіх землякоў даў у Мінску два прадстаўленні. Грандыёзнае шоу прысвячалася Фрэдзі Мэрк'юры — вялікаму англічаніну, каралю і легендзе рок-н-рола. Спадзяемся, што відовішча гледачам запомніцца надоўга, большасці ж чытачоў «Культуры» можам прапанаваць толькі паглядзець на гэты здымак, зроблены фотакарэспандэнтам газеты Генадзем Жынковым.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкія рэдактары — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3

Індэкс 63875
Агульны наклад 7000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

